УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5
К67

**Корнеў, А. К.**
К67 Мядовы полюс : вершы і паэма / Алесь Корнеў. – Брэст : Альтернатива, 2010. – 120 с.

ISBN 978-985-521-166-3.

У кнізе Алеся Корнева “Мядовы полюс” – новыя вершы аб каханні, прыродзе, філасофскія разважанні, жыццёвыя замалёўкі, жарты, паэма і пераклады.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-521-166-3**

# “НЯКТАР І ЗЁЛАЧАК, І ЗОР...”

Як сведчыць гісторыя геаграфічных адкрыццяў, ці не найбольш цяжкадаступнымі мясцінамі на нашай планеце былі яе палюсы. Экспедыцыя за экспедыцыяй выпраўлялася ў скаваныя льдамі арктычныя і антарктычныя рэгіёны, марачы нарэшце ўмацаваць сцяг той ці іншай дзяржавы на месцы, праз якое праходзіць умоўная зямная “вось”. І мары гэтыя здзейсніліся – у пачатку XX стагоддзя чалавечай настойлівасці скарыліся і Паўночны, і Паўднёвы палюсы...

Але вандроўкі за моры-акіяны падуладныя (ды і ці патрэбныя?) далёка не кожнаму чалавеку. Дык што ж рабіць тым, хто не можа або не хоча імкнуцца ў неаглядную далячынь? Няўжо ім наканавана ўвесь свой век пражыць на адным месцы, у шэра-будзённай кругаверці? Заставацца рабамі *“і горада свайго, ды і кватэры... і рэчаіснасці з пярэстай доляй”*?

Не, сцвярджае Алесь Корнеў, які, мяркую, зусім не выпадкова паставіў верш “Раб натхнення” на адну з першых старонак сваёй новай кнігі. Здавалася б, сапраўды нерэальна вырвацца за межы паўсядзённасці, звыклых побытавых ды іншых праблем. Але апошнія радкі згаданага верша жыццесцвярджальныя:

*Няма свабоды ў выбары прываб,*
*Але ў натхненні я – свабодны... раб.*

“Рабом” натхнення чалавек робіцца не пад прымусам, а па закліку сэрца і розуму. І адразу

пашыраюцца яго жыццёвыя гарызонты. Сапраўдны творца ў стане на роўных размаўляць з цэлымі галактыкамі, з Млечным шляхам (верш “Пад зорнаю коўдрай”). У стане пераадольваць недасяжныя раней жыццёвыя адлегласці, не звяртаючы ўвагі на перашкоды. А пакарэнне полюсу? Дык у кожнага чалавека – свае палюсы. І мядовы палескі “полюс” не горшы за тыя, да якіх імкнуліся славутыя падарожнікі. Трэба толькі асэнсаваць, што вось ён, твой полюс – побач з табою.

Нездарма шмат якія вершы і цэлыя паэмы Алеся Касьянавіча прысвечаны роднай беларускай зямлі, Баранавіцкаму краю, з якім звязана большая частка свядомага жыцця. Сапраўды,

*Суседзі мне даўно ўжо пабрацімы,*
*Аднак азёры для мяне і пушчы –*
*Святыя родзімкі маёй Радзімы.*

І нават болей:

*Кабеты на лужку ля Ісы*
*Мілейшыя за Моны Лізы.*

А ў гэтым Алесю Корневу, аўтару больш за дзесятак кніг, у якіх так ці інакш прысутнічае і асэнсоўваецца тэма кахання і жаночага хараства, мы можам смела давяраць.

І ў той жа час, пры ўсёй павазе паэта да свайго краю, у вершах А. Корнева мы не знойдзем аніякай правінцыйнай “закамплексаванасці”, як не знойдзем і прынцыповага нежадання вандраваць па свеце. Наадварот, аўтар шмат вандруе – і ў думках, і ў рэальнасці – дапытліва

вывучаючы і асэнсоўваючы з'явы навакольнага жыцця. Нездарма тэма дарог і вандровак – адна з асноўных шмат у якіх паэтычных творах Алеся Корнева.

Што праўда, аўтар не схільны ідэалізаваць вандроўкі самі па сабе – як простую пагоню за экзотыкай або нейкімі прыгодамі. І нярэдка бывае іранічны:

*Ляцяць кудысь касмапаліты,*
*А я сяджу касмабароды.*
*Пад ногі ім – асфальт і пліты,*
*А мне палі і агароды....*
*Навек душэўнай пупавінай*
*Я зросся з роднаю зямліцай,*
*І сам сабе твару навіны –*
*Лакальныя! – па-за сталіцай.*

Увогуле ж у творчасці Алеся Корнева, як лёгка можа заўважыць дапытлівы чытач, заўсёды суседнічаюць "узвышанае і зямное", сумнае і смешнае... І чаму тут здзіўляцца? Аўтар у сваіх вершах ідзе ад жыцця, дзе таксама прысутнічае ўвесь згаданы "асартымент" з'яў і пачуццяў.

Што тычыцца не зместу, а "формы", то паэтычнаму таленту Алеся Касьянавіча падуладныя самыя разнастайныя творы – ад паэм і вянкоў санетаў да аднарадковых вершаў, якія мне вельмі хацелася б тут працытаваць, але не хачу пазбавіць чытача асалоды прачытаць іх у гэтай кнізе ў належным месцы – там, дзе іх змясціў сам аўтар.

Вернемся, аднак, да тэмы "палюсоў". Добра, спытае нехта, хай сабе на Палессі і ёсць полюс,

але чаму “мядовы”? Сапраўды, чаму не аднойчы сустракаем мы на старонках гэтай кнігі “мядовую тэму” – пачынаючы ад назвы самой кнігі і да паэмы “Мядовыя мары і чары”, якая займае адно з ключавых месцаў ва ўнутранай структуры зборніка? Ці толькі з “Мядовай прэміяй” за 2009 год, знакамітай на Берасцейшчыне і па ўсёй Беларусі літаратурнай узнагародай, якой уганараваны Алесь Корнеў, звязаны гэткі інтарэс да пчалярства і пчолаў? Вядома ж, не. Тады, магчыма, адказ вось у гэтых радках з паэмы?

*Лятуння збірае нектар і пылок*
*І ў лесе глухім, і ў даліне мурожнай.*
*Ёй хочацца ў вулей вярнуцца здалёк,*
*Стаміўшыся моцна, але не парожняй.*
*Пішу гэты верш і зайздрошчу пчале...*
*Дык вось дзе салодкай паэзіі школа!*

І далей:

*Няктар і зёлачак, і зор*
*Дае запал душы і плоці,*
*А як замрэ грудны матор,*
*То хай у небе, у палёце!*

Ці можна (і ці варта) дадаць нешта да такіх годных і шчырых словаў? Лепей перагорнем гэтую старонку – і перад намі напоўніцу раскрыецца паэтычны свет Алеся Корнева, нашага земляка і сучасніка... Здароўя і плёну, і яшчэ многімі кнігамі парадаваць нас пажадаем шаноўнаму аўтару!

***Вадзім Жылко,***
***сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў***

# РАЗДЗЕЛ 1

# Усё знаёмае да болю

## Яска азарэння

Прыйдзі, прыйдзі, нарэшце, азарэнне,
Для роспачнай душы – аздараўленне,
Як мой трыумф, як паспяховы вынік
Натхнення паэтычна-творчых клінік!
Ці многа будзе гэткіх сітуацый?
А мо – карысней плён уласнай працы,
Сумленнай, радаснай і карпатлівай
Над захаплядьнаю жыццёвай нівай?
Дык дзе ж мая хвілінка азарэння,
Хвілінка неўтаймоўнага тварэння?
Ды вунь яна – нябачнай зоркі ўспышка,
І мо адтуль – праменных думак лішка,
Што хутка так праносіцца над доляй!
Адно злавіць парывістую здолей!
І вунь яна – на залатых палетках!
Яшчэ ў снягах, яшчэ ў вясенніх кветках!
Яна ў каханні, і яна ў сумленні!
Яна – і ноч, і першыя праменні!
Лаві яе, вяртлявую сінічку,
Маланку-ластаўку ці яску-знічку!

І ўжо лаўлю! Лаўлю! О, шанц аказій!
Мне азарэнне дораць раптам гразі
Рачных заток і мшалага балота!
І тут жа ўслед зарніцы пазалота
Шліфуе думку ўзнёслую да бляску!
І я нясу яе, жывую яску,
У свет паэзіі, у водар новы
Квяціста-медунічнай роднай мовы!

## Раб натхнення

Хаця мой край шырокі і шматкутны, –
Свабоды я не маю абсалютнай,
Бо хрысціянскі раб святых містэрый,
І горада свайго, ды і кватэры,
І раб сваіх бясконцых намаганняў,
Раб закаханасцей і раб каханняў,
Раб рэчаіснасці з пярэстай доляй,
Раб слова, а паэзіі – найболей.
Няма свабоды ў выбары прываб,
Але ў натхненні я – свабодны… раб.

## Пад зорнаю коўдрай

Стаміўшыся, з ношай дарожнай
Прылёг на зямельцы мурожнай –
Пад коўдраю неба прылёг.
А месяц і голы, і босы
Ўсё топча і топча нябёсы,
Ніякіх не маючы ног.

Рассыпаўшы яскі-бурштынкі,
Ён вее па небу пылінкі –
Шлях Млечны шляхетна ўзвіў пыл.
Плыві, ветах, з цёмнага кута!
Сцягно тваё гэтак сагнута –
Скруціў, як на санны капыл!

“Дураснік, дык будзь жа здароў ты!
Сыдзі з маёй небнае коўдры!” –
Той вейкамі толькі махнуў.
Ах так? Я ў пасцельцы мурожнай
Схапіў небакрай асцярожна
І ўраз як мага страсянуў.

І ўпалі ўсе зоркі-бурштынкі –
Упалі начныя расінкі,
Шлях Млечны – ля рэчкі адно...
Спрасоння, як лісцік асіны,
Дрыжу і здранцвелы, і сіні...
Не золак, а добра відно.

* * *

Падрастаў я і сталеў –
Гарт быў, ды не сталлю...
Залязаў на дзедаў хлеў,
Любаваўся даллю.

Што было там і што ёсць?
Дзівы? Таямніцы?
Бачылася прыгажосць
Тая, што не сніцца.

Скачваўся з хлява і бег
Па траве мурожнай.
Спрабаваў дагнаць мой смех
Вецер спадарожны.

З года ў год я ўсё сталеў –
Блізка і да сталі…
Далі з высачэзных дрэў
Лепей бачны сталі.

Свеціцца ў далечыні
Ці не рай той чуты?
Свет нязнаны, адчыні
Мне душу сваю ты!

Злазіў з дрэў, ішоў і бег
У той край стракаты,
Дзе стваралiся наспех
Яркія плакаты.

А пад імі – меч і лом,
Цьмяны бляск лапаты…
То будуем, то на злом –
Замкі, цэрквы, хаты.

Вырас я, ды  ўжо не той
(Дуб сыны прадалі), –
Незалежны, пехатой
Пакараю далі.

* * *

Я паважаю Польшчу і Расею,
Але люблю адно сваю Айчыну,
І хай не сніцца болей фарысею
Мяне ачмурваць адпаведным чынам.

Я да чужога не, не завідушчы.
Суседзі мне даўно ўжо пабрацімы.
Аднак азёры для мяне і пушчы –
Святыя родзімкі маёй Радзімы.

Як іх угледжу, то вачыма пешчу.
І жаўручок ужо пры той нагодзе
Здаецца мне, як прадказальнік вешчы,
І… сонейка за пазухаю ўсходзіць.

Іграе светлая зара на твары,
А там, над пушчаю, – вянок вясёлкі!
Такую існасць і такія чары
Мне адкрываюць родныя прасёлкі!

І як не дзякаваць Хрысту і Маісею,
Што навучылі ў міры жыць і ў ласцы…
І сёння ўжо не варта фарысею
Мне ў шчырасці зноў і ў сяброўстве клясца.

* * *

Шматтыражная лістота –
Быццам кніжкі, вецці…
Вішні ліст, як ліст блакнота,
Дзе радкі аб леце.

Я чытаю – і штодзённа! –
Не без хвалявання:
У радочках тых зялёных –
Радасць існавання.

Каб радочкі тонкіх жылак
Правільна раскласці, –
Я, напэўна, без памылак
Склаў бы кнігу шчасця.

## Усё знаёмае да болю

Вядуць гасцінцы і дарожкі
Сюды, дзе мальвы і валошкі,
Дзе пчолы аблажылі грушу,
І дзе лужок падобны плюшу,
Дзе ветрык лётае па полю,
Дзе ўсё знаёмае да болю.

Старонка любая, адзіная –
Мая ты песня лебядзіная.
Квітнеючы абсяг раённы –
Мой край садоў, мой край хлябоў!
Табе, блакітны і зялёны, –
Мая адданасць і любоў!

Здзіўляе пыхаю Мышанка
І нат мацней, чым парыжанка.
Кабеты на лужку ля Ісы
Мілейшыя  за Моны Лізы.
І ў тых, што ля рачулкі Шчары, –
Свае бясхітрасныя чары.

Старонка любая, адзіная –
Мая ты песня лебядзіная.
Квітнеючы абсяг раённы –
Мой край садоў, мой край хлябоў!
Табе, блакітны і зялёны, –
Мая адданасць і любоў!

Квітнеюць вёскі. У Падгорнай
Шмат поспехаў ад працы спорнай,
Набраў разгон жыццёвы, вірны
Жамчужны, а за ім і Мірны.
А там далей, за паваротам, —
Вітае Моўчадзь і Сваротва.

Старонка любая, адзіная –
Мая ты песня лебядзіная.
Квітнеючы абсяг раённы –
Мой край садоў, мой край хлябоў!
Табе, блакітны і зялёны, –
Мая адданасць і любоў!

## Баранавічы

Разлёгся ціхі гарадок
У зёлкавым міжрэччы.
Цягнік пяе – гудок! гудок! –
І кліча да сустрэчы.

Іду ў настроі, пяючы,
Па вуліцах знаёмых.
Жывём, жывём, Баранавічы,
Раз марым і пяём мы!

Юнак хацеў сталёвых крыл,
І вось, ён – у сінечы!
Адкрыў прастору небасхіл
Адвазе чалавечай.

Ляцяць пілоты, пяючы,
Над горадам знаёмым.
Жывём, жывём, Баранавічы,
Раз марым і пяём мы!

Мой гарадок рупліва тчэ
Дарожку шчасця з бязі.
Пакуль мы не ў раю яшчэ,
Але настрой уразіў.

Жыву, аб доме пяючы,
Бо рай той – незнаёмы…
Жывём, жывём, Баранавічы,
Раз марым і пяём мы!

Час перамен ужо наспеў.
Мой горад памяркоўны
Натхняе шматгалосы спеў
І думны звон царкоўны.

Будуем горад, пяючы,
Не ведаючы стомы.
Жывём, жывём, Баранавічы,
Раз марым і пяём мы!

## Акно паэзіі гарыць

*Анастасіі Жук*

За зморанай санлівай брамкаю
Захутаўся імжой стары дамок.
Святло ў акне. А там за рамкаю
(Я, затрымаўшыся, амаль прамок)
Красуня, бачу, з асалодаю
Чытае ўголас – томік не Дзюма:
Чытае вершы, а мелодыю
Імкнецца тут жа падабраць сама.
Суняўся тэлевізар з кліпамі,
Бо некаму сягоння іх дарыць…
Імжыць экран. Імжа над ліпамі.
Экран акна паэзіяй гарыць!

## Дзьмі, музыка, ва ўсе дудкі!

Прызнаюся, што з маленства
Паважаю "духавенства".
Пра цябе змаўчаў бы, ды
На трубе іграеш ты.

Пнешся – гарбузамі шчокі!
Крыламі махае нос.
Медны раструб крутабокі
Грае часам уразнос.

А ты молішся ахвотна,
Разгарнуўшы сшытак нотны;
Сцэна для цябе – амбон,
А малітва – трубны звон.

Выдзьмеш неймаверным духам,
Пэўна, з кожнага грахі,
Бо ўнутры – святыя духі,
Звонку – дамскія духі.

Паважаю я з маленства
"Дзьмухаўцоў" і "духавенства",
Правільней – духавікоў,
Сённяшніх і ўсіх вякоў.

Будзь жа, дружа, моцны, пруткі,
Каб твой медны звон не сціх;
Дзьмі штодзённа ва ўсе дудкі,
Весялі сяброў сваіх,
Весялі людзей усіх!

## Бязгучныя песні

Глуханямы ад прыроды
(О, каб усе так маглі!)
Сэрцам спасціг асалоду –
Гук жыватворнай зямлі.

Дні красавіцкія – святы.
Годзе ў маркоце дубець!
Светлы настрой і прыўзняты.
Так захацелася пець!

Вусны з душы вылівалі
Зладжаны рэчытатыў,
І звышчастотныя хвалі
Неслі ў прастору матыў.

Сам сабе творыць ён гукі –
Лёгкі вясенні мажор.
Лётаюць пальцы і рукі…
Ён яшчэ і дырыжор!

Музыка нема крыляе,
Мо дасягне і не ўсіх…
Раптам, стан думак здзіўляе:
Я яе сэрцам спасціг!

## Стары падворак

Дзед з бабулькаю. Усе ім
Шанаванні і паклоны!
Двор стары ўжо стаў музеем,
У сучаснасці ў палоне.

Кросны занялі гарышча:
Ткуць узоры з павуціны.
Цвыркунок запечны свішча,
Навяваючы ўспаміны.

Хоць канюшня і пустая,
Ды чамусьці ржэ часамі.
Дзед ускочыць, паматляе
Барадою і вусамі,

Потым пойдзе да павеці,
Моўчкі пасядзіць у брычцы…
Выраслі даўно ўжо дзеці,
З’ехалі на электрычцы.

Толькі журавель драўляны
Ў вырай нават не памкнуўся:
Стаў, застыў зачараваны,
Бы на скарб які наткнуўся.

Жораў, дзюбаю пасоўгай,
Нахіліўшыся ў калодзеж,
Мо няўрокам ёю, доўгай,
Зорку дзедаву там знойдзеш.

## Буслянка і бацяны

1

Што ні воблачка – амаль качан, –
Успрымаў маленькім неба я так:
“Бацька! Баця, глянь, прынёс бацян
З небнае капусты бацянятак!”

Красаваліся ва ўсёй красе
Птушкі ў водбліскaх зары румянай.
Я любіў буслянку на страсе,
На старой, імшыстай, саламянай.

Помню, як з гумна татулька зняў
Гэты помнік дзедаўскі, вячысты;
Як салому на страсе мяняў,
Ды на шыфер, на рабрысты;

Як шкілет старое бараны
На каньку прыладзіў пад буслянку;
Як іржаў, смяяўся вараны,
Глянуўшы на гэтую прыманку!

Ці мо шыфер быў зубасты, злы,
Ці мо конскі рогат гамерычны –
Абмінулі барану буслы,
Слуп аблюбаваўшы электрычны.

Колькі вынаходства ў іх было,
Каб іскра не ўспыхнула на дроце!
Толькі ў дождж свяцілася жытло –
Замыканне макрата кароціць.

І міргалі ў той час вокны хат,
І ўздыхалі электраманцёры,
І, нарэшце, выбухнуў загад –
І палез на слуп адзін, мацёры…

Потым хлопцы свежай елкі ствол –
Помнілася дзедаўская школа –
Укапалі непарушна ў дол
І наверсе ўмацавалі кола.

А вясной, калі бляск вадзяны
Весела высушваў вецер свежы, –
Зноў гняздо рабілі бацяны,
Толькі на… ваданапорнай вежы.

2

Часы дзяцінства і былыя мары
Мільгнулі, асвятліўшыся маланкай…
Праз успаміны, як праз акуляры,
Гляджу на постаць клёна, што з буслянкай.

Буслы лятаюць часта па замежжы,
Але каб толькі пераждыць там зімы,
Бо іх душа, як неўгамонны пейджэр,
Заўсёды кліча да сваёй Радзімы;

Дзе клён стары, аднойчы даўшы слова
Ў часы асенняй сумнае разлукі,
Трымае, беражэ жытло буслова;
Хаця і млеюць жылістыя рукі,

Але трымае, як вянок кахання
Бусловага, ды і свайго, між іншым;
Таму і ўпарты ў велічным чаканні,
Надзею ў добрым сэрцы затаіўшы.

3

І вось вясна, і на старой буслянцы –
Буслы ў павольным, грацыёзным танцы.
То Ён, расчуліўшыся, крылы прыпадыме,
А потым прытуляецца да любай;
То галаву закіне гаспадыня,
Махне яму падмаляванай дзюбай.
І чараў тых не вытрымае бусел,
І дзюба – к дзюбе: пацалункі-бусі!
Пасля ў запале дружна заклякочуць,
Шчаслівыя, адно аднога варты;
Альбо, задраўшы голавы, рагочуць…
Бываюць жа і ў іх, напэўна, жарты.

4

Памеры крыл! Магутны ўзмах і плаўны!
Якая сіла! І ні кроплі зла!
Ляціць, плыве мой любы сімвал даўні,
А ўслед за ім – і мой настрой бусла.
Вунь доўгадзюб – іголкаю над полем,
І я, здаецца, – нітачкай за ім.
Зналёту шоўк паветраны праколем,
На луг апусцімся і пастаім.

Паразважаем крыху, пагаворым
Пра белы свет, пра лёс мой і яго,
Пра шчасце, клопаты і гора –
А ў нас хапае зараз усяго.
Разгледзім, як жывём і як павінны,
І хто нам гэткі прызначае лёс…
Спазнаю і далёкія навіны,
Якія птах на крылах мне прынёс.
Я ж толькі тут, адвечна ў Беларусі,
У межах новых пенсіённых норм…
Брыду, блукаю ў пошуках, як бусел,
Чагосьці для душы і на пракорм.

## Пралятала гускі

Быццам трэпле хусткі
Вецер на шнуры,
Так ляцелі гускі
Стомлена ўгары.
Гучна гагаталі:
Сілкавацца дзе?
Ці ў зялёных далях,
Ці ў якой вадзе?
Раптам захістаўся
Зморaны касяк,
Рэзка ўніз падаўся
Вопытны гусак.
Там жаўцела поле,
Як жывы лаўсан.
Пакляваць бы ўволю
Свежага аўса!
І, як пух з далоні, –

З неба гусі ўсе…
Пасвяцца не коні,
А яны ў аўсе.
Дыетычны, спорны
І для іх авёс –
З ім лягчэй угору
Ўзняцца да нябёс.
Зноў – уверх! Шнуроўка
Крыламі грабе –
Дальняя вандроўка
Ў стрыманай журбе.

## Гусейн

Трымцяць кветкі яблынькі – спудзіла рэха,
І дуб насцярожыўся, мудры сляпак,
І змоўклі салоўкі ад гучнага брэху,
І кошка – на дрэва, вышэй ад сабак!

Балонкі і мопсы ўглядаюцца ў сучку.
Во! Колькі ўжо гонару ёй, маладой!
А гусі разважна, няспешна – у кучку,
Бо моцныя звеку сваёй грамадой.

Ідуць след у след, хвост у хвост за гусейнам,
За мудрым яго адвакацкім пяром…
І раптам зрабіўся ён мужным і дзейным:
На шумную зграю ўміг – белым арлом!

Сабакі – у спудзе і з брэхам – за рэхам,
За ўласным услед і так шпарка! Уга!
А гусі гагочуць і давяцца смехам:
“Эгей, малайцы! Га-га-га! Га-га-га!”

* * *

Ляцяць кудысь касмапаліты.
А я сяджу касмабароды.
Пад ногі ім – асфальт і пліты,
А мне палі і агароды.

Ім хочацца ў капіталісты,
Пацехі вабяць іх і гульбы.
А мне б – качан шыракалісты
І паўкаструлі б сопкай бульбы.

Навек душэўнай пупавінай
Я зросся з роднаю зямліцай,
І сам сабе твару навіны –
Лакальныя! – па-за сталіцай.

## Няма калі за мытню мне

На небакраі быццам кроў разліта.
Аб елку стромкую ўкалоўшы донца,
Спяшае з пашпартам касмапаліта
Ў шпіталь Еўропы падлячыцца сонца.

Плывуць услед за сонцам касманаўты,
Плывуць і воблакі ў блакіт бяздонны.
І ястраб крыкнуў мне: “Ці паспытаў ты
Пераадолець мытні і кардоны?”

Табе, лятун, адно даваць парады.
Як добра там, то не ляцеў адтуль бы.
Пакуль я з’езджу ў Рым ці ў Каларады,
То каларадскі жук зніштожыць бульбу.

Пакуль агледжу цёплыя Багамы,
Ці будзе пакараць мне сэрца Ніца, –
Валяцца будуць зёрны пад нагамі,
Як пераспее жыта ці пшаніца.

Вярнуўся ўсё-ткі ты дадому, ястраб.
І воблачка дадому шлях праторыць.
І ў Пірэнеях сонца не захрасне –
Назаўтра мне шчаслівы дзень падорыць.

## На якіх кітах зямля

Ну вось і ты, сябрук мой сціплы,
Сягоння адчуваеш востра:
Кавалачкі жыцця, бы кліпы, –
На доўгай стужцы часу-монстра.

І добра, што не зажурыўся,
Бо ты жыццю заўсёды рад,
Дый зараз прад табой адкрыўся
Ў смузе спакуснай далягляд.

О музы, грайце, балабоньце!
Не мы матывы выбіраем…
Вунь край зямлі на гарызонце…
А што за тым далёкім краем?

За краем тым зямлю трымаюць
Алігархічныя “кіты”:
Уладу і багацце маюць,
Бязбожны кожны і круты,

Ды скарб зямлі хрыбет ім цісне,
А як брыльянты ў ёй, – тым болей.

Раздаць людзям было б карысней,
Ды не падзеляцца ніколі.

Сябрук, туды ты просіш візу,
Бо не ўявіў яшчэ, хто там
Зямельку падпірае знізу,
Каб скарб яе прыпаў “кітам”.

## Камбала

Камбала! Камбала,
Як бы плоскі жарт прыроды…
Тут была, там была,
Ды паўсюль – адны нягоды.
Сціснута, сплюшчана
Слупам вадзяным, цяжэзным;
Здушана, змушана
Пакарыцца ўладным жэзлам.
Ты – такога ўціску доказ…
Камбала! Камбала,
Долечка табе дала
Аднабокасць, аднавокасць.

* * *

Ухмылкі слізкія з іроніяй,
І рогат – выбухам сарказму…
Ці сябрукі вы, ці староннія?
Бывайце! – і дзвярыма бразнуў.

Наперад, шляхам не раздвоеным
І негатовай каляёю!

Хай буду адзінокім воінам,
Ды моц і вытрымку падвою!

А стрэўшы тых, каму паверу я,
Ахвотна акажу падтрымку,
Бо ведаю: жыццё – містэрыя,
Дзе вера й здрада – у абдымку.

## Малітва бабусі за стан Беларусі

То ззяюць суквецці, то спелыя гронкі.
То год мільгане, як сусветны экран,
То ў кнігу жыцця дадаюцца старонкі –
Ствараецца Новы Завет і Каран.
Змяняюцца моды, абутак, адзенне;
Дзяржавы мяняюцца і не радзей…
Адно толькі зайздрасць і толькі хаценне
Не зменяцца, мабыць, ніколі ў людзей.
Ці слава, ці ганьба – такім усё роўна!
Не хочуць ніякае святасці душ,
Абы ўзбагаціцца з крывёй ці бяскроўна,
Абы добры кавал – агромісты куш!
Аддацца, прадацца – навейшая мара:
Няхай сабе бос і круты, і ліхі...
Каб  зоркаю стаць, па законах піяра
Сягоння прыгодны любыя грахі.
    Васковая свечка ў тузе дагарае,
І толькі праменьчык надзеі не згас
У зморшчанай бабці: штовечар старая
Ўлагоджвае неба мальбой за ўсіх нас:
“О Маці Гасподняя, будзь міласціва!
О Госпадзі Божачка, наш дарагі,

Прашу, сатвары нечаканае дзіва:
Прабач несвядомасць і нашы грахі,
Нахабнасць і зайздрасць даруй, і распусту,
Даруй і давер да глабальнай хлусні,
Прабач і пагарду да добрага густу,
Намеры і думкі людзей праясні.
Ратуй нас усіх ад пакорнасці вечнай,
Ад холаду, голаду, гора, бяды;
Ратуй ад хваробы нас, ад невылечнай,
Ад засухі і ад празмернай вады;
Ратуй, любы, ад катастрофы дарожнай;
Ад рэкета злоснага абарані…
Малюся, хрышчуся: калі толькі можна,
То злое начальства ад нас адвярні.
О Божачка, дай нам зямелькі ўрадлівай,
І дай усяго нам, чаго не стае.
О Божачка, дзякуй, што зноў ты цярпліва
Сягоннячы выслухаў просьбы мае".
На покуце свечка цішком дагарала,
А з ёй і пражыты напружана дзень.
Хоць перакавалі мячы на аралы,
У небе – злавесны, драпежніцкі цень.

* * *

*Міхасю Угрынскаму*

Дык вось ён, мужны наш асілак,
Выдатны сын сваіх краёў!
Жывы агонь ягоных жылак
Запальвае людскую кроў.

Такі дасціпны! Гэткі ходкі!
Даследваў замкавішчы ўсе.
І, заглянуўшы ў вочы продкам,
Парады іх да нас нясе.

Касцы, і кавалі, і цеслі
Адчайна баранілі край.
З паходняй покліч гучны неслі:
"Палон ці воля – выбірай!"

Асілак наш, твае абрысы
Паходняю здаюцца нам.
Жыві, мацней і не скарыся,
Не паддавайся груганам!

І мы з табой не паддамося
Пакоры рабскай і сляпой,
І перш-найперш твой сябра – вось я! –
У першым шэрагу з табой.

# РАЗДЗЕЛ 2

# Рамонкавае каханне

* * *

Агонь кахання! Ён адзіны,
Што не пагасне анідзе!
Кахаюцца маржы на льдзіне,
І песцяцца кіты ў вадзе,

Стракозы – нават у палёце,
Сінічкі – між яловых лап,
На купіне ў гнілым балоце –
Нястрымнае вяселле жаб.

І ні касметыкі, ні моды!
Хіба ж у гэтым прыгажосць?
Каханне – у віры лагоды!
Дык радуйся таму, што ёсць.

* * *

Ты – журавінка ў моры моху.
Мяне заўважыла здаля
І зачароўваеш патроху,
Як жураўліха жураўля.

Дык ведай жа: даўно журлівы!
Давай жа, цуд са мной твары!
У соснах – свісту пераліvы:
Там – салаўінае журы.

Глядзіць і сонейка пачціва,
Яно – таксама нам суддзя…
А пацалунак твой надзіва
Настолькі ўражлівы, хаця

І гасіць крыху намаганні
Дрыгвы зыбучай ускалых,
Нібы ў каханні – зноў ваганні
Сумненняў новых і былых…

Ты – журавінка ў багне топкай!
Давай пяройдзем у лясок…
І будзем разам піць таропка
Твой журавінны вінны сок.

## Алёна

Раніцаю шматгалоссе
Пачынае салавей,
Ды і мне на сенакосе
Весялей і здаравей.

Шкада: няма Алёны.
Тут зёлак, як нідзе!
Кашу дзірван зялёны,
Усмешка ў барадзе.

Не раўнівы я, а пільны.
Не кары і не карай.

Уключаю свой мабільны:
Давярай ды правярай.

– Алё! Алё! Алё-на!
Ты, любенькая, дзе?
– Дык я ж працую плённа,
Мой любы, на градзе.

Сонца за лясок сядае,
І ўжо цень з травы ўстае.
Дзе ж, мая ты маладая?
Дзе ж усмешачкі твае?

– Алё! Алё! Алё-на!
Ты, любенькая, дзе?
– Гляджу, бо з град варона
Суніцы пакрадзе.

Я зварыў даўно вячэру,
Бо цаню сямейны лад,
Ды, прызнацца, слаба веру,
Што каханая ля град.

– Алё! Алё! Алё-на!
Дык цёмна… Дзе ж ты? Дзе?
Яна ў адказ натхнёна:
– Ужо!.. Ужо… Сусед вядзе.

* * *

Сэрца – ходарам, у скокі!
Каб туды!.. На небны дах!
Твой пагляд, хоць і далёкі,
Хоць губляецца ў гадах,

Ды абдаў мінулым жарам:
Падыходзь, маўляў, не трусь!
Толькі сэрцайка пажарам
Не ахоплена чамусь

І ў грудзях жывую цемру
Не спяшае распароць,
Толькі востравeрхім крэмнем
Рэбры зрэзала шматкроць.

*

Зоркі! Зорачкі! Яны нас
Хочуць шчасцем азарыць,
А ты мне любоў (на вынас)
Не схацела падарыць.

Прорву небасхіл разіне
І пакліча ў неба тлець…
У пакрыўджанай слязіне
Зорачка ўсплывае ледзь –

Хай з няпрошаным папрокам
Не спускалася б з вышынь…
Як шкада, што стаў далёкім
Твой нябесны крэпдэшын.

* * *

*Юліі і Раману К.*

Вы сямейнаю параю селі ў каноэ,
Дык грабіце старанна і дружна абое,
І тады пашанцуе – і то ў намаганні! –
Доўга плыць у хвалюючым, бурным каханні,

Дзе, звычайна, прылівы змяняюць адлівы,
І дзе трэба знаходлівым быць і старацца,
Бо заўсёды на плаве ў жыцці, хто руплівы
І каго загартоўвае ўпартая праца.

Дык няхай жа спрыяе зямля і нябёсы,
І ніколі няхай не губляюцца вёслы,
Хай ваш выбраны шлях будзе радасным,
дзейным
У грамадскім жыцці, а найбольш –
у сямейным!

* * *

*Валянціне Кор*

Магла заўважыць, пэўна, і сама
Ліхія хібы свету, Валянціна:
То ўзлёт хлусні, то шчырасці няма,
То вір страсцей, а то мяшчанства ціна.

Згубіліся даўно сярод раўнін і гор
Астаткі слыннай моўнае латыні,
Аднак старая назва сэрца **cor**
Жыве й дагэтуль у маёй краіне.

Чытаем слова па складах **да-кор**:
Прад намі нешта, што дайшло **да сэрца**…
А як ісці яму напера**кор** –
Чакай, што болем гэта адзавецца.

Не заўважаць марфему – нелады,
Бо **кор** бывае і ў пачатку слова.
Калі ж дабавіць суфікс, то тады
Мы слова асэнсоўваем нанова.

Я помню рэчы, што ўжо аджылі,
Напрыклад **кор**аб – ёмішча з бяросты
(і з лубу гэткія ж былі)…
Як бачым, лёс людзей і слоў няпросты.

Любоў, сімпатыя і пачуццё
Не ўсім падораны жыццём навечна.
Адно табе дано на ўсё жыццё
І шчырай быць з каханым, і сардэчнай.

## Вадзіму
### (акраверш)

**В**ядома, не спазнаць людскіх адносін.
**А**дно быў лад, і тут жа – нелады.
**Д**ухмяны май квітнеў, і раптам – восень!
**З**авялі, згорклі райскія плады…
**І**мкнецца здрада, бы мароз той, нізам,
**М**яняе ўсё, пярэч ці не пярэч.
**К**анца няма душэўным катаклізмам,
**А**ле ніводнаму не скажаш: “Прэч!”

**Ж**ыў па Бібліі і жыў з надзеяй,
**А**ддаўшы існасці сябе дарма.
**Д**ы раптам над адданасцю – завеі,
**А**ледзяняе жорсткасцю зіма.
**Ю**рлівасць – вірам, захліснула розум,

**Ш**аленства ўзнесла хісткую душу:
**Ч**амусьці любая прымае позу
**А**дчайна-грозную і нат – у-шу!..
**С**ынок, не сохні болей у знямозе,
**Ц**і ж ты не бачыш, як жыццё ідзе,
**Я**к дні шчаслівыя ўжо ў чарадзе?

## Якое ж каханне?

1

Нас часта палоніць краса чалавечая,
Але ж… яна вяне і сохне, што кветка.
Пачуцці адно – наша вартасць адвечная,
Хаця і мяняюцца ўсё-ткі нярэдка.

Каханне прыйшло! Хай жыве неўміручае!
І Ён яму рад, і Яна яму рада.
І раптам… ужо закаханых замучвае
Няведама скуль наляцелая здрада!

Каханне прыйшло і… сышло недарэчнае.
А следам за ім – і сумленне, і сорам.
Дык што застаецца тады? Што ў нас вечнае?
Ды зайздрасць і крыўда з адвечным дакорам!

Чаго ж тады ў Бога зычлівасці просім мы,
Дарэмна губляючы сілы і час?
Бо як мы пакажам да іншых адносіны, –
Так будзе адносіцца Бог і да нас.

2

Красуе, шчыруе бярозка ля рэчкі,
Акружаная тапалямі і клёнамі.
Лісточкі ў танклявай – нібыта сардэчкі,
Нібы валянцінкамі сталі зялёнымі.

І просіць сардэчна адно хоць сардэчка
Дарослы клён і маладыя таполікі.
Яна ж адмаўляе рашуча, бясспрэчна,
І тыя тужліва маўчаць, меланхолікі.

Чаму адмаўляе? А быў такі самы…
Яна ўжо навучана доляй няпростаю.
Як памяць аб тым, на ёй – чорныя плямы,
Такія не ўтоіш пад белай бяростаю.

Не хочацца зноў паддавацца абразам,
І не спакушаюць хай ласкавай моваю…
Калі ўжо і сыйдзецца, дык толькі з вязам –
Нядоля суровая іх аб’ядноўвае.

## До ре мі
### (вясенняя песенька)

Ты прыехала з Бярозы,
Што на ўсходзе ад Бярэсця,
І ў душы маёй прагнозы
Сталі лепшымі, нарэшце.

До ре мі фа со ля сі –
Трубяць пра вясну ласі.
До ре мі фа со ля… Сок
Веснавы адчуў лясок.

З лосем разам я ў гуморы –
Сок бяроз крыху гуллівы,
Ад яго настрой бадзёры,
І з табою я шчаслівы.

До ре мі фа со ля сі!
Сок вясенні п’юць ласі.
Сок бярозавы п’ю я…
Ты ўся – смаката мая!

Дадзеная воляй боскай,
Стала ты такой патрэбнай;
Мне б з табой, маёй бярозкай,
Жыць і жыць пад ласкай небнай.

До ре мі фа со ля сі –
Трубяць пра вясну ласі!
Можа з гэтае вясны
Стануць яваю мне сны.

## Дожджык шэпча

Грыміць і шуміць. Дожджык шэпча. Бяссонне.
І вось што пачуў з таго шэпту сягоння:
“Каханне расце з асалоды фізічнай,
І ціхім бывае, і радасцю зычнай.
Калі з ім і вернасць увойдзе ў жыццё,
То будзе ўжо іншым тваё пачуццё.
Шчасліва і доўга з такім пражывеш,
І кожны пражыты дзень стане, як верш,
Як песня душы з урачыстасцю гімна!
А страта навек асалоды інтымнай
Не стала б ніколі трагічнай няўмеру,
Як страта адданасці, страта даверу…”
Даволі мо, дожджык, журботнага шэпту!
Ты ўнёс у настрой мой шчымлівую лепту,
І я ўжо нібыта над нейкаю прорвай –
Ляці і касцьмі схілы скальныя ўзорвай!
Аднак я жыву, і каханая поруч...
Калі ж і сканае, то страшную горыч
Ніякай заменаю не адбялю,
Пакуль буду бачыць сусвет і зямлю.

Я ўпэўнены: з чыстым сумленнем памром мы…
Канчайце суцокі і дождж, і громы.

## Ілюзія

Старая жанчына, танклявая, стройная,
Забылася ўжо, як адчайна кахала,
Ды раптам юнак усміхнуўся, і мройная
Шчаслівая думка на сэрца запала.

Дадому спяшае. Ён – следам валочыцца.
Вось-вось, нерашучы, нарэшце пакліча…
А ёй абярнуцца, вядома ж, не хочацца:
Няма прыгажосці – старое аблічча.

Забегла ў кватэру. Не можа аддыхацца…
Юнак летуценны, яе не кары!
Адсунула шторку, каб глянуць на выхадца
З яе маладосці… А гэта – стары!

Глядзіць у акно яе крыху збянтэжана,
Нібыта ў хаднік чаравікамі ўрос.
Дык дзе ж тая дама? Дык дзе ж яна?
Дзе ж яна?
А сэрца жанчыны адстуквае – sos!

* * *

Вось бы закахацца яшчэ раз
І адчуць той непаўторны момант,
Што ўзмацніў бы спеў звычайных фраз
І сырой зямлі вясенні гоман;

І адчуць, што я не толькі плоць,
А і водар лёгкага паветра…
Вось бы з ветрам прапалоць
Колеры вясёлкавага спектра,

Каб ярчэй гарэў яго букет…
І няважна ў што я закаханы:
Ці ў жыццё, ці ў працу, ці ў сусвет,
Ці ў жанчыну, ці ў пялёсткі канны.

Закаханасць – гэта не журба,
Не іспыт, не радасць, а ўсё разам:
І калі раблю павольна па,
І калі ўзлятаю ў неба з джазам.

Толькі ж будзе ўсё ж і ёй канец,
І аслаблую ўжо не падлечым,
Ды пакуль я на зямлі жылец,
Мабыць, зноўку захаплюся нечым.

Закахаюся да поўнага зліцця
З гэтым незвычайным і прыгожым!
І тады, разлічваю, з жыцця
Лёгка, разам з ім сысці ўжо зможам.

* * *

Калі ў каханні не шанцуе,
То вершы сумныя пішу я.
Калі знайду ў каханні смак,
То верш не пішацца ніяк.

# Пачэсны чын сярод жанчын
## (вянок санетаў)

1

Заняў ты крэсла камандзіра
Сярод прыгожанькіх жанок,
Бялеў і хваляваўся шчыра,
І заікаўся неўзнарок.

Але не каяўся ніколі,
Хоць і за вухам часта шкроб,
Ды ўсё ж ніколі лепшай долі
Не знаў сакратаўскі твой лоб.

Няхай сабе сярод жанчын
Не вельмі і вялікі чын,
Але ў настроі, у рабочым,

Для іх ты незаменным стаў,
І хор жаночы паўтараў:
“З табой мы поспехі прарочым”.

2

“З табой мы поспехі прарочым!” –
Крычаць яны. О, жах які!
Як хочацца рукам жаночым
Плясці лаўровыя вянкі!

А хай бы з кветак палявых
Яны сплялі табе вяночак,
Як стымул для такіх сівых
У светлых справах цёмных ночак…

Зайздрошчу, бо табе кабеты
Ўплятаюць у вянок санеты,
І для жаночага куміра

Гатовы нават і калье,
І завушніцы зняць, але…
Але аб іншым грае ліра.

3

Але аб іншым грае ліра,
І кожная сяброўка-дама
Ў цябе ўглядаецца так міла,
Як Ева некалі ў Адама.

І сэрца тарахціць у рэбры,
Нібыта ў ксілафон які;
Палосы ўпалыя, што ў зебры,
Твае ўпрыгожылі бакі.

Худзейшым стаў сярод худых.
Аднак які музычны ўздых!
І ты ў нябёсы аж пакрочыў

Удасканалены надзіва;
І зіркаеш на свет шчасліва
Пад зоркавым вянком жаночым.

4

Пад зоркавым вянком жаночым
Не кепска ўсё-такі жывецца.
І хочам сёння ці не хочам –
Ад любых нікуды не дзецца.

І… жываце суполкай цеснай
То ўпотайкі, а то адкрыта…

Напой салодкі з долі прэснай
У хрусталі вачэй наліты.

Таму і радасны настрой,
Таму і чалавечы рой
Заўсёды ўзрушана гудзе

Без вулея і без калоды.
І столькі пекнай асалоды!
Навошта ж мучыцца ў нудзе?

5

Навошта ж мучыцца ў нудзе
(Я згодзен з думкаю такою),
Калі жывём у грамадзе,
Калі ўсё робім талакою?

І сэрца з радасцю працуе,
І кожны ўдар – імператыў,
Які яднае і мацуе
Жаночы плённы калектыў.

І ты, паважны педагог, –
Каму анёл, каму і бог,
Хаця і сарамлівы змалку.

Імкніся ўсё-ткі, прывыкай!
Смялей твары! Смялей шукай!
Гатуй да радасці запалку!

6

Гатуй да радасці запалку!
Патрэбны шчасцейку ключы!

Яно ж нябачна, быццам галка
Ў бяздоннай цемрачы начы;

Яно – і схованы прыпас
Вясенніх сіл, сіл узнаўлення,
І лёс цяперашні ўсіх нас,
І лёс наступных пакаленняў.

Усіх мужчын, усіх цароў
І ўсіх масцей правадыроў
Жанчына за сабой вядзе.

А дзе ў каханні тыя межы?
Адказвацца нам не належыць,
Інакш патухнем па чарзе…

7

Інакш патухнем па чарзе:
Нам без жанчыны – лёс нуды,
Які пра кепскае вярзе
Штодзённа і на ўсе лады.

Ад мамачкі наш першы крок,
Другі – да любай у каханні;
Мы шчасце бралі ў мацярок
І мілай неслі без вагання;

І легкадумна я і ўсе
Яго губілі пакрысе;
Наноў пасля ў каханні палкім

Вымольвалі ў капрызнай любкі.
Ёй неслі грошы, вазы, кубкі
І… бралі шчасця аскабалкі.

8

І... бралі шчасця аскабалкі,
І кожны быў бязмерна рад,
Каб склеіць дробныя кавалкі.
А будзе цэлае? Наўрад.

Аднак збіраем іх то ў кош,
То ў сейфы моцна замыкаем.
Але не той ужо іх кошт,
І ўжо прываба не такая.

Чаго ж тады мы іх шукаем,
Чаго сябе мы панукаем
Крупінкі разглядзець пад лупай

Альбо праз моцны акуляр...
І расплываўся ў шчасці твар,
І шчыра дзякавалі любай.

9

І шчыра дзякавалі любай,
Хоць сталі большымі ў разы
І клопаты, і страты-згубы,
І колькаць рознай драбязы,

І сполахі тваіх трывог
За ўсе інтымныя падзеі...
Што толькі дзень змясціць не змог?!
Ты, не губляючы надзеі,

Угледзься: усяго там досць!
Вядома ж, і каханне ёсць
Таемнай ілюзорнай купай.

Усё разгледзь, пасля развaж
Аб чым гаворыць макіяж…
Глядзі, пакрыўджана не хлюпай.

10

Глядзі, пакрыўджана не хлюпай,
Вільготнасці не развадзі
І памяці сухія струпы
Не раздзірай, не верадзі.

Бо там, у глыбіні схаваны
Шчэ незабытыя гады,
І незагоеныя раны,
І крыўд бязмерныя склады.

Пад коркай закарэлай, струпнай
Яшчэ жыве характар рупны.
Дык ты заўчасна не гаруй,

К жанчыне падыдзі ласкава
І, маючы на гэта права,
Усе капрызы ёй даруй.

11

Усе капрызы ёй даруй,
Не будзь занадта ганарлівым,
Добразычлівую спаруй
З такім жа шчырым і зычлівым.

Раз бацькам стаў, то будзь і сватам,
Садзі разгубленых за стол.
Раз добрым стаў, то будзь крылатым –
Патрэбен кожнай свой анёл

Не толькі там, высока ў небе,
Але і тут... Ох як патрэбен!
І не забірай у скрыты вопіс

Правіннасці і проста шал,
Бо ты ж – не нудны цемрашал.
Не крыўдзіся, васпан, за дробязь.

12

Не крыўдзіся, васпан, за дробязь,
Бо з драбнаты і я, і ты,
І чалавек вышэйшай пробы,
І чалавек зусім пусты.

Галоўнае: што ў тым, у дробным?
Запал жыцця ці не патух?
Методыкай сваёю пробнай
Правер: ці здольны дух на ўзрух?

Але даследуй асцярожна,
Бо цноты крышку ёсць у кожнай...
Святы айцец няхай акропіць

Цябе ў тваім пасадным крэсле,
Пакуль свой імідж не акрэсліў,
Бо лёс не гэткага наробіць.

13

Бо лёс не гэткага наробіць,
Як перablытае прасцінкі
І як душу няўзнак раздробіць
На долі, долькі і часцінкі;

І кожнай любай і каханцы
Падасць маленечкую частку;

А тыя ў гневе-ліхаманцы
На гэта глянуць, як на пастку.

І да цябе ў тузе і крыўдзе
Ніхто ўжо болей не падыдзе.
Але ж прабач ім і даруй.

А ў люстра ўсё-ткі паглядзі ты:
Ці не занадта ўжо сярдзіты?
Калі ўзяў лейцы, то кіруй!

14

Калі ўзяў лейцы, то кіруй!
А лейцы – стужачкі з атласу.
Жанок не падганяй, мілуй,
Але не будзь занадта ласым.

Калі ж няўстойлівай якой
Патрэбна будзе дапамога, –
Забудзь пра ўласны свой спакой,
Ёй прысвяці сябе самога;

І вось тады твой калектыў
Табе спяе рэчытатыў,
Асыпле ласкай і хвалою.

І будзеш ты, сябрук, павер,
Хваліцца, як і я цяпер,
Сваёй пасадаю былою.

15

Займеў ты крэсла камандзіра,
З табой мы поспехі прарочым.
Але аб іншым грае ліра
Пад зоркавым вянком жаночым.

Навошта мучыцца ў нудзе?
Патрэбна радасці запалка,
Інакш патухнем па чарзе.

І… бралі шчасця аскабалкі,

І шчыра дзякавалі любай.
Глядзі, пакрыўджана не хлюпай,
Усе капрызы ёй даруй.

Не крыўдзіся, васпан, за дробязь,
Бо лёс не гэткага наробіць.
Калі ўзяў лейцы, то кіруй!

## Рамонак і Шчарыца
### (легенда)

У вышыні нябеснай значна
Вышэй, чым лётае каршун,
Калісьці жыў хоць і нябачны,
Ды найдабрэйшы бог Вястун.
Але ягоны сын Рамонак
Пасля ўсіх спрэчак і гамонак
Дабіўся ў татачкі дазволу
Пажыць сярод  людзей уволю.
І стаў ён жыць там, дзе славяне:
Рыбачыў, сеяў, паляваў,
Адпачываў і баляваў
Нярэдка з імі на паляне.
І хто ж чакаў, што гэтак здарыцца:
Мажны атожылак нябёс
Раптоўна закахаўся ў Шчарыцу
І не на жарты, а ўсур’ёз.

Яна таксама, узаемна…
Абое ў шчасці аж цвілі.
Глядзець на іх было прыемна
З нябёсаў сініх і з зямлі.
Але… О, гора! Ды якое?!
На племя гэта, на людское,
Спусцілася бяда-навала,
Якой дагэтуль не бывала.
Такая засуха напала!
Палі пасохлі і лугі…
Навошта рэчкам берагі,
Калі вады зусім не стала?
Кудысьці птушкі пахаваліся,
Кудысьці збеглі і звяры.
А над зямлёй раўлі, злаваліся
Сухія жорсткія вятры.

Хаця б адна была крыніца!
Хаця б вады якой папіць!
І кідаліся ўсе маліцца…
Але канкрэтна што рабіць?
І вось Рамонак – сын жа божы! –
Каб людзям гора не памножыць,
Праз воблачныя далягляды
Ляціць да бацькі за парадай.
І адказаў Вяшчун: “Мой сынку,
Ты богу Сухавею ў дар
Павінен кінуць на алтар
Найпрыгажэйшую дзяўчынку”.
“Татулька! – плача хлопец, енькае. –
Я з чым вярнуся на зямлю?
Жыццё паненкі маладзенькае
Я нізашто не загублю”.

“Цябе хай гэта не хвалюе.
Яна сама ў такой бядзе
Сябе ў ахвяру прапануе,
Адно б шляхі адкрыць вадзе.”
Юнак вярнуўся ўсхваляваны.
А там ля дуба, на паляне
Народу гэтулькі сышлося!
Мо будзе што ці адбылося?
Яго ўлюбёнка падыходзіць,
Бярэ ласкава за руку
І ціха кажа сябруку:
”Я клапачуся аб народзе,
Вады няма, і згінем проста мы
Ўсе тут, у высахлым гаю.
Таму я Сухавею жорсткаму
Сябе ў ахвяру аддаю.
А ты, мой любы, мой жаданы,
Ахвярай стаць дапамажы.
Бяры сякеру, мой каханы,
Замахвайся і не дрыжы. –
І шэпча так яму на вуха:
– З табой з’ядналася я духам,
Сустрэнемся пасля на небе…
Там абаім нам будзе лепей.
Я не змяню свайго намеру,
Не абурайся, памаўчы. –
Лягла на плаху. – Ну, сячы!”
І апусціў  юнак сякеру,
А сам ад жалю ледзь не валіцца,
Бо смерць убачыў прад сабой…
Паволі кроў цячэ са Шчарыцы,
Гняце і жахам, і журбой;

Дол апякла і… нечакана
Правальваецца там зямля;
І труп славяначкі каханай
У прорве тоне спакваля,
Бо ў ёй адкрыліся крыніцы:
З адной вада ледзь-ледзь бруіцца,
З другой імклівы вал як рыне…
Узнікла возера ў даліне
На месцы з назвай “Калдычэва”.
Адно мільгнулі косы дзевы…
І пацякла адтуль рачулка…
І стала ўраз усім лацвей.
А ненасытны Сухавей
Шукае іншага прытулку,
Пайшоў са смагаю за пазухай,
І адступілася бяда.
Цячэ, шуміць, бурліць вада…
І можна развітацца з засухай.

А як цяпер тут жыць Рамонку?..
І ён падаўся да нябёс.
Пакінуў сумную старонку,
Душу каханае панёс
Туды, высока – у нябёсы,
Губляючы ў дарозе слёзы
Аб лёсе нечаканым, горкім…
І слёзы падалі, і зоркі
Ляцелі разам на палеткі,
На ўзлессе і на дол сухі
І з той нябеснае трухі
Ператварыліся… у кветкі
З пялёстачкамі тонкімі,
Прывабнымі, што ні кажы –

Хоць пра каханне варажы.
Таму й назвалі іх рамонкамі…

Эх, Шчарыца! Душы ўлюбёнай
Не кепска ў небе. Дык чаго ж
Тады ліецца стуль салёны
І горкі час ад часу дождж?

Прайшло ўжо не адно стагоддзе,
Усё змянілася ў прыродзе:
Няма ні дуба, ні паляны,
Няма і ідалаў драўляных.
Даўно нябесныя абшары –
Пры новых велічных багах.
Затое з намі – рэчка Шчара
З рамонкамі на берагах.

# РАЗДЗЕЛ 3

# Мядовыя мары і чары (паэма)

*Прысвячаецца Міколе Папеку,*
*пчаляру і паэту, мецэнату і даследчыку,*
*заснавальніку штогадовай Мядовай*
*прэміі для пісьменнікаў Берасцейскай*
*вобласці за дасягненні ў літаратуры*

## Уступ

Каб жыццё нам здавалася мёдам,
Каб язык не тапырыўся крукам,
Мы салодзім свой рот антыподам –
Жабінкоўскім адбеленым цукрам;

І схіляем к салодкаму слову
І свае, і чужыя манеры;
І святлейшым (хаця напалову)
Стане дзень, што быў нудны і шэры.

Праўда, чуюцца часам і слоўцы,
Быццам граду вясенняга дробат,
Бо калючкамі руж ці ядлоўца
Часам лезе ў душу нашу побыт;

Ды ўсё ж радуе спеў жаўруковы,
Спеў касы на дзяляначчы роснай...
І нам хочацца ласкавай мовы,
Ярка-вобразнай і меданоснай.

Дык давайце ж адносіны спросцім!
Бо з нас кожны заўсёды павінны
Быць жаданым і ветлівым госцем
У любым закуточку краіны!

## Бацькоўскі край перасяку
## І адшукаю пасеку

Ганяе вецер белыя пялёсткі
Ў квітнеючых садах радзімай вёскі –
Квяцістая садовая пароша –
І мне ўжо час да сябра ў падарожжа,

Які і краязнаўца ў нас вядомы,
Які, як пчолка, – без хвароб і стомы,
Ад працы мае плён, ды шматпудовы,
Ды гэткі смачны, водарны, мядовы!

Парадак у яго крылатым царстве,
Бо ён – спадар, філосаф у пчалярстве
І на Алімп імкнецца навуковы...
І ў добры шлях, раз Бог падбіў падковы!

Там, у акрузе, ведаюць усе,
Як ён умела пасеку пасе,
Таму народ і трутні-блазены
Яму здароўем абавязаны.

Як можа ён, не змог ніколі б я так
Лагодна задавольваць пчоламатак.
А ён, прыгожы, дужы, малады,
Даўно ўжо пчолабацька, сапраўды.

* * *

Не ведаў я, што пчолы любяць гулі,
І што да іх дайшоў ужо прагрэс,
Што сябра на машыну грузіць вуллі
І на маёўку адпраўляе ў лес.
На ўскрайку леса столькі пчолахатак!
Ажно палохае пчаліны вір!
І ў кожнай хатцы – згода і дастатак,
І дысцыпліна, і сямейны мір.

А супакою – ні хвіліны,
Бо вечна ў працы рой пчаліны!

Паветра аж гудзе, нібыта зуб мой кутні, –
Напружыла пчаліная сям'я!
Працаўнікі спяваюць, а не трутні...
Няўжо для іх з'явіўся трутнем я?
Нутром адчуў, што ў іх я – пад наглядам,
Бо думаюць: пасквапіўся на мёд...
Вось-вось, чакаю, нашпрыцуюць ядам:
Аж хочацца наўцёкі, у палёт!..

Хаця прад імі я нявінны,
Але ж усё-ткі – рой пчаліны!

* * *

Яшчэ на лісточках – слязінкі начы,
Ад доўгага сну – на аблоках румянец,

Шчэ конікі і цвыркуны-скрыпачы
Пакуль не зайгралі званочкавы танец,

А ўжо свой маторчык заводзіць пчала,
Каб зноў аглядзець сакавітае ўгоддзе:
У добрым настроі аблёт пачала
Руплівая, кемлівая па прыродзе.

Наросхрыст душу раскрываюць прад ёй
І поле, і поплаў, сумежны балоту,
Ды не вымярае яна даўжынёй
Рабочы свой шлях і паказчык палёту.

Лятуння збірае нектар і пылок
І ў лесе глухім, і ў даліне мурожнай.
Ёй хочацца ў вулей вярнуцца здалёк,
Стаміўшыся моцна, але не парожняй.

Пішу гэты верш і зайздрошчу пчале…
Дык вось дзе салодкай паэзіі школа!
А як не зайздросціць, калі на чале
Пчалінай суполкі – пясняр наш Мікола.

## Такая дзіўная ваколіца! Калі ж душа красой натоліцца?

Калісь чытаў, што ў Герадота
Быў доказ і даволі смелы:
Сярод палескага балота
Вадзіўся конь пароды белай.
Мой дзед быў рад карове рыжай,
Ды абзавёўся і пярэстай.
О, вымя! Велізарнай грыжай

Яно вісела ў гэтай песты.
А плям было! І колер кожнай –
Нібыта іерогліф чорны!
Пасля бычок бездапаможны
Радзіўся чорны, што пячорны…

А тут карову белую
Разводзяць год ужо на ферме –
І з думкай адубелаю
Туды мой розум вока верне.
А мо з такой короваю
І будзе ў працы добры плён?
Жывёлай ганароваю,
Відаць, праславіцца раён.
Пастух цікаўны, бела-русы,
З той альбіноскі ўжо не кпіць,
Бо не пазбавіцца спакусы
Таемна малака папіць.
Напэўна будзе незвычайным
Яно ад гэтай альбіноскі.
І вось прыладзіўся адчайны,
А быў сасок не горшы соскі…
А тая – бац! Удар капытні
Перакуліў ажно старога…
Кароўка, хоць мацней не вытні,
Не настаўляй крутога рога!
З усмешкаю атарапелай
Падняўся спуджаны Пятрусь
І зразумеў: каровай белай
Заганарыцца Беларусь.

* * *

Дарога, як страла, і раптам – колам.
Далей мы крочым следам за Міколам,
Пераадольваючы спрытна гразь:
За мной Іван* палез, пасля – Міхась*...
Зялёны поплаў пульхна-сакавіты
На сонцы млее, лесам апавіты,
У травяную глыб упарта кліча,
Туды, дзе зёлкі ззяюць таямніча.
І раптам, як разлітае яйцо,
За хмызняком заззяла азярцо.
І сонца ў ім люструе, бы жаўток...
Які пейзаж! Здзіўляючы куток!
А злева – вунь! – бабровая плаціна.
Спляценне суччаў узмацніла ціна.
Такі праект! Дзівоснае стварэнне!
Бабёр, як бачу, творца і нядрэнны.
Без адукацыі, а так скумекаў!
Пераўзыходзіць іншых чалавекаў!
Дый столькі смеласці ў патоку рызык!
Ён вам – і лірык, і выдатны фізік.
Відаць, навукі некалі зубрыў
І грыз іх значна лепей, чым зубры:
Інакшыя ад роду прыдаліся нервы;
Адсюль і талент – творча-інжынерны;
Адсюль – мастак, і лесаруб, і плотнік:
Сярод звяроў – найлепшы ён работнік.
Ды вунь плыве! Вадзіцу затрасло:
Маленькі нос, а хвост, нібы вясло.
Убачыўшы людзей, расхваляваўся,
Нырнуў і дзесь пад берагам схаваўся.
Я чуў, што там ён вышкрабае норы,

А ў глыбіні іх – спальныя пячоры;
І там спакойна ўлетку дый узімку
На травах спіць з бабрыхай у абдымку.
Іду па беразе, іду па ўзгорку.
А-ёй! Нага правальваецца ў норку!
І так спалохаўся! Зусім не крыху,
Бо наступіў, здаецца, на бабрыху.
І хвост ёй прышчаміў абцасам,
Аж вырваў, бачу, валасінку з мясам!
Прабач, гаротная…

З бабрынаю,
З такой загадкавай сябрынаю,
Я развітаўся, і скіроўвае
Час позні ад сям'і бабровае
Сцяжынкаю між крапівы і зёлак
На нераз'езджаны, пусты прасёлак.

* * *

Ля вёскі, ля паўсоннае –
Клады даўно адмерлыя,
Дзе травы – не газонныя,
Дзе мхі – пушыста-шэрыя.
А валуны там – помнікі,
Галовамі здаліся мне.
Каменны твар іх – роўненькі,
Лішайнік на залысіне,
На лбе – крыжы нятленныя,
Дый – роўнапрамянёвыя.
Чым, помнікі каменныя,
Нас доля аб'ядноўвае?
Вяду бяседу шчырую

З адмерлымі яцвягамі…
Мінуўшчыну мусірую
Здагадкамі, развагамі.
Былі гадзіны цяжкія,
Ды ўжо насталі новыя…
А могілкі яцвяжскія
Ўсё ж вёсачка захоўвае.

* * *

“Знаёмся толькі з добрым чалавекам”, –
Мяне калісьці павучалі продкі.
І вось я пазнаёміўся з Папекам,
Застаўся ў памяці ўспамін салодкі.
Мужчына! Столькі духу ў ім і спрыту!
А чалавечнасці хіба бывае болей?
Адразу бачна, што ў душы адкрытай –
Пчалярства і паэзія ў суполлі.
І светапогляд у яго не вузкі,
І падыход да існасці кранальны;
Свой любы край, куточак беларускі,
Даследуе ахвотна, дасканальна.
Як бачу, ён праз “немагу” ўсё можа
І дабіваецца заўсёды плёну.
Нас пацягнуў запальна ў падарожжа
Па гістарычнаму свайму раёну.
І для мяне паўсюль было ўсё нова,
Дастойнае і ўвагі, і пашаны:
Уладжаная вёсачка Лінёва,
Шкілет палаца аздабляў Ружаны.
На ім убачыў рэшткі рэстаўрацыі…
Але дзе дзеўся кіраўнік іх палкі?
Ад незакончанай мізэрнай працы

Вакол – сучаснай цэглы аскабалкі.
Які прыгожы краявід наўкола!
І столькі ў ім цікаўнасці ўсялякай
Ты паказаў, шаноўны сябр Мікола,
За што ад сэрца дзякуй табе, дзякуй!

***І днём, і ноччу, што крышталік цэзія,***
***Натхненне выпраменьвае паэзія.***

Дзіўлюся і ніяк не надзівіцца
Сучаснасцю і яваю былою.
Тым болей, шэпча зорка Мілавіца:
"Каб смак жыцця спазнаць, то будзь
пчалою.
Працуй заўзята днём пад гукі лютні,
Твары і леваю рукой, і правай,
А як сцямнее, то тады (як трутні!)
Займіся з радасцю мужчынскай справай:
Забудзь пра лютню, грай на "сексафоне",
Бо ведаю, што да кахання падкі…
Старайся, грай да раніцы ў палоне
Напруджаных абдымкаў ненаглядкі".
"Я так і дзейнічаю, Мілавіца;
Нібы пчала, і ўдзень, і ўноч – нястомны;
Люблю ля кветачак жыццёвых віцца;
Нат выдаў зборнік вершыкаў, двухтомны.
Раз аб каханні напісаў кантату,
То ты, нябесная, дапамажы
Настрой у кожную данесці хату,
Хай пачытаюць нават і бамжы".
І зорка кінула мне яскі ў зрэнкі:
"Усё жыццё натхненнем я гару,

Аднак жа паэтычныя ацэнкі
Пайшлі б найлепш паэту-пчаляру.
Я ведаю: ён дабрадзей, не цынік.
Яму сама твой зборнік аднясу,
Але тады ты атрымаеш вынік,
Як зробіць неба інеем расу".

* * *

І вось, калі ўжо маразы, што цеслі,
Рубілі хаткі снежныя на ўзлеску, –
Сняжынкі і віхуры мне прынеслі
Доўгачаканую прыгоду-вестку.
Пчаляр Мікола з пчоламі нараду
На днях правёў, і тыя далі згоду
Мне выразіць публічную спагаду
Аж цэлым пудам палявога мёду!
І каб за ім прыехаў на Каляды,
Бо атрымаю поўнае вядзерца
Раз блізкі да пчалінае плеяды,
Раз пасвячаю ім душу і сэрца.

## *Дарога доўгая, зімовая Маё натхненне не стрымоўвае.*

Кабылка, заінеўшы на марозе,
Па замеці дарогу выбірае,
А капыты – што бубны, і палоззе
Пад іхні тупат манатонна грае.
Вазок праз пульхныя сумёты лезе.
Спявае фурман, мужычына хваткі.
І раптам… злева, у глыбокім снезе, –
Людзьмі і Богам кінутыя хаткі.

Бы ў рыцараў далёкага стагоддзя,
На іх ільсняцца снежныя шаломы;
З-пад іх, нібы ліняюць (смех дый годзе!) –
Чубы старое, шэрае саломы.
Ну як жа рыцарам трухлявым біцца
З сучаснымі цаглянымі дамамі?
Шаломы ў тых – металачарапіца
І шклопакеты ў палімернай раме.
Гнядая, тпру! Па лёдзе так не цокай,
Бо ад паспешнасці не будзе ладу…
Дабрацца б толькі да шашы далёкай –
І на аўтобус цёплы перасяду.

* * *

У металічна-шкляной шкарлупіне –
Я і сябры (іх амаль цэлы тузін);
Едзем і слухаем, як па кабіне
Снежнаю лапай пагладжвае студзень.
Дзе ж яна хата гасцінная тая?
Ці дачакаецца нас гаспадыня?
Снег касмылямі нам шлях замятае,
Думка ўзлятае і ў холадзе стыне.

Хісткі аўтобус наш едзе і едзе,
Крэкча з натугі, ды без абурэння.
Там, за абшарамі снежнымі недзе –
Той гаспадар, што гасцінна сустрэне.

Добра, што ў гурце мы ўселіся цесна,
І што між намі – гаворка жывая,
І што вясёлая, дружная песня
Часам бадзёрыць нас і саграває.
Жвавы Міхась* не жадае змарыцца,

Думкі ўцякаюць, ён ледзьве іх ловіць.
І не злавіў бы, калі б не Сырыца*
І каб не ўдумны Іван Лагвіновіч*.

Хуткі аўтобус наш едзе і едзе,
Крэкча з натугі, ды без абурэння.
Там, за абшарамі снежнымі недзе –
Той гаспадар, што гасцінна сустрэне.

Нас трасе так, што ніякай дрымоты,
Смех калыхае, а мо анекдоты –
Гэткія часам, што цёплыя боты
Тузаюцца і адстукваюць ноты.
Здзіўлены вецер заглядвае ў вокны,
Чуецца посвіст марознага зуха,
А з вышыні снегавыя валокны
Цягне і цягне на дол завіруха.

*Віктар Сырыца, Іван Лагвіновіч, Міхась Маліноўскі – мае прыхільнікі.

* * *

З аўтобуса трапіў у шум завірухі:
Ні неба не бачна, ні цвёрдай зямлі.
Вакол закруціліся белыя мухі,
А з імі – і гэтакія ж матылі,
І белыя пчолы ў жывой каруселі,
І дзесьці гудуць каля вуха чмялі...
Адны адпачыць на каўнер мой паселі,
Другія людскія сляды замялі.
Мой бот неахвотна ў глыбокі снег лезе
І шлях неўпрыкмет выбірае прамы.
А справа і злева хаваюцца ў снезе

Прыціхлыя, быццам бы вуллі, дамы.
Хай белыя мухі і пчолы ў палёце,
Няхай і па долу нясуцца наўскач,
А я – усміхаюся: бачу на плоце,
Нібыта варону, забыты гарлач.
І столькі натхнення ад гэтай карціны!
Аж арыю выканаў у цішыні
На ганку хаціны: “Гэй, сябра гасцінны,
Бадзягу прымі! Гэта я, адчыні!”

* * *

Мароз да акна прытуліў ціха вуха,
Махнуўшы завеі, каб так не мяла.
І тут спадары (а найперш медавуха!)
Усіх запрасілі бліжэй да стала.
Адмовіцца думаў, але быў так рады,
Бо і салцісон-закусон добры ёсць.
А тут яшчэ звычай такі на Каляды:
Хто ў хату заходзіць – той сябра і госць.
А хата на свята – што вулей той ройны:
Шуміць і гудзе маладая сям’я,
Найбольш – гаспадар, і вясёлы, і стройны,
А побач з такім падрастаю і я.
Таму з рук не выпусціў чарку, відэльца,
Хоць ад медавухі расплыўся, размяк…
Прабач, гаспадыня, такога прышэльца:
Не ў сілах стрымацца, бо гэтакі смак!
А з гаспадаром я адное плеяды –
Спяваем абое мы гімны пчале.
Дык хай, як і сённячы ў вас на Каляды,
Заўсёды вяршэнствуе мёд на стале.

***Настрой да неба аж узнесены!
Цябе вітаю, край наш песенны!***

Упаў і знік у снезе вецер хвосткі.
А на галінках – снежныя пялёсткі,
Зімовыя цудоўныя суквецці!
Такая прыгажосць на белым свеце!
О, колькі ў нас было прыгожых зім!
А гэтая – адметная ва ўсім.
Галінкі дрэў – усе без калыхання:
Суполле іх затойвае дыханне.
І не чакай ад іх ты, чалавечак,
Ні шуму-посвісту, ні тлумных спрэчак.
Няхай бы ў гэтай дзіўнай цішыні
Драмалі ночы, доўжыліся дні!
Няхай бы замарозілі марозы,
Ды назаўсёды войны і пагрозы;
І мы спакой ад жарсці палітычнай
Знайшлі б у прыгажосці паэтычнай,
Як сённяшняя зіміца-зіма...
А гэткай, мабыць, анідзе няма!

* * *

Абшар, мяцеліцай адбелены,
Прыціх, спавіты паланезамі.
Акорды радасці... А дзе яны?
Іх чуем у рыпучым снезе мы!

Здароў, раён заслужаны,
Край гонару, пашаны,
І гарадок напружаны,
Цудоўныя Пружаны!

Віднеецца, красуе спадчына
За тонкаю вуаллю снежнаю.
Дзівосаў – бачана-нябачана!
Як не любіць красу бязмежную?!

Здароў, раён заслужаны,
Край гонару, пашаны,
І гарадок напружаны,
Цудоўныя Пружаны!

Настрой ажно да неба ўзнесены!
А неба яснае прыспушчана!
Цябе вітаю, край наш песенны,
Мая святая беларушчына!

Здароў, раён заслужаны,
Край гонару, пашаны,
І гарадок напружаны,
Цудоўныя Пружаны!

* * *

Па гарызанталі, па гарызанталі
Неспакойная душа імкнецца ў далі.
Па гарызанталі сэрца ў стоме кроча,
Хоць і хочацца падняцца ў міжаблочча.
І раптоўна з месца ўверх, па вертыкалі,
Думкі радасныя ў неба паскакалі…
Бо нарэшце доўгі шлях адолены:
Любаваўся я мясцінамі ля Століна,
І ад Жабінкі праз мост пукатазгорблены
Сэрца радасна датупала да Кобрына,
І адтуль мяне анёл мой паважаны
Праз Аранчыцы направіў у Пружаны.

І ступіў я ўрэшце на мядовы полюс,
Дзе мне вусны смачна асвяжыў праполіс,
Дзе ў крылатае пчалінае басоты
Водарам палёў напоўненыя соты.
А ў палацыку-сядзібе, у музеі,
Дзе гасцююць з Музай казачныя феі,
У нястрымнай плыні аўтарскіх імпрэсій
Зіхацяць у пробнай творчасці Алесі,
Юрасі і Сцёпкі, Яні і Марыны…
І не дзіва, што ў супольнасці сябрыны
Мара ўсякая становіцца сумеснай
І ляціць над родным краем вольнай
песняй.
І мая была гарызантальнай мара,
Ды ўзнялася вось да перпендыкуляра
І, прайшоўшы па людскому разгалоссю,
На мядовым полюсе паўстала воссю!

***Як дзіўна! На мядовым полюсе***
***Мне дружна саладзілі долю ўсе.***

Сонца з хмары ўздоўж другой імкне,
Рассейваючы колеры.
Сёння смакату ўручаюць мне,
Якую ў пчол агоралі.
Вось ён добры, слаўны гурт людзей!
Святое бачу племя я!
І таму настрой ажно гудзе,
І дзіва што! Мне – прэмія!
Гэткай нават не ўяўляў яшчэ –
Пачуў, што не грашовая!
І адразу ў роце мёд цячэ!
Бо прэмія – мядовая!

Сёння вы, сябры, маё пяро
Натхнілі новай тэмаю.
Як аддзячыць вам за ўсё дабро?
Мо велічнай паэмаю?
Мо такую ўсё-ткі сатвару,
Пчале і вам аддзякую,
Раз… памкнуўся на Парнас-гару,
А не ў зямельку мяккую.
Дзякую табе, пчаліны рой,
І добры наш пчаляр Папека,
Што далі мне шчасце і настрой,
Яшчэ і ўзнагароду века!
Радуюся і за Міхася,
І за стараннага Івана:
Ім таксама мёдам у гасцях
Было натхненне ўшанавана.

***Прызы і радасную стому***
***Сябры і я вязём дадому.***

Дадому нас нясуць вятры,
А на руках – мёд у вядры,
Дый для мядовых мар і чар
Мясцовы чарадзей-ганчар
Нам падарыў шчэ два збаны –
Амаль царкоўныя званы.
Мядовы пах, салодкі звон
Узбудзіць родны наш раён.
Вясёлы будзе гармідар,
Бо нездарма нам гаспадар
Даў столькі саладосці! Мы ж
З удзячнасцю мядовы крыж

Нясём дамоў, як Божы дар,
Як вынік творчасці і мар.

## Замест эпілога

Сняжынкі! Вам пяю хвалу –
Чальцам завейнага балета!
Але ўсхваляю ўсё ж пчалу
Ў пялёсткавай віхуры лета.

І хай у кветках будзе лог,
І хай нектар мой дух абновіць,
Але ўнікай у эпілог
І ты, мой сябра Лагвіновіч!

Кажу табе: “Скінь сум з чала
І азарыся ўсмешкай цёплай!
Як меданосная пчала,
Ляці зноў на нябесны поплаў!

Стаміўся, у журбе захрас…
Дык ты ж, я ведаю, не гэткі.
Смялей праз хор зямных абраз
Ляці на небныя палеткі!

Там воблікі сівых аблок –
Не тое, што людскія маскі;
Там сініць космас васілёк,
Там зорачкі – жывыя краскі!

Збірайся ў новы свой палёт
(Аб тым трызніў і для таго жыў),
Ляці і ўсмоктвай зорны мёд,
Які б радкі твае ўпрыгожыў!

Няктар і зёлачак, і зор
Дае запал душы і плоці,
А як замрэ грудны матор,
То хай у небе, у палёце!”

# РАЗДЗЕЛ 4

# Хандра — што з вядра

* * *

Бывае, зневажаюся я доляй,
Бо мне не толькі мёд нясе ў вядры,
А і журбу, і як мага ўсё болей
Дурной неўтаймаванае хандры,

Якая броснее ў душэўнай слоце
І запалоньвае, што ні кажы.
Але ж усё-ткі ў хмарнай пазалоце
Знаходжу супакой пасля імжы.

Паразважаўшы, з думкаю цвярозай
Шукаю зноў ва ўсім натхнення квет...
Хвілінка і ўжо над жыццёвай прозай
Плыву, лячу ў загадкавы сусвет.

* * *

Дзе тое шчасце, сябра, пакажы:
Ці гэта прывіды і міражы,
Якія не трымаюцца мяжы

Гарызантальнае далечыні,
Якая паглынае ночы-дні?

Дзе тое шчасце, сябра, пакажы:
Ці ў супермаркеце, ці ў гаражы?
Ці гэта мо зайздросны скарб чужы,
Які супакаення не дае,
Заваражыўшы думкі ўсе твае?

Дзе тое шчасце, сябра, пакажы:
Ці гэта ледзяшы на капяжы,
Ці гэта травы, сонца і дажджы,
А потым зноў – бяскрайнія снягі,
І кожны дзень як самы дарагі?

Дзе тое шчасце, сябра, пакажы…

## *Ідалы і грошы*

Калісьці старыя каменныя ідалы
З каменнымі сэрцамі, мохам абросшы,
Каб лепш над народамі цешыцца, выдалі
Спачатку цяжкія каменныя грошы.

Ды толькі навошта такія здаровыя?
Таму потым сталі чаканіць манету.
І вось ужо грошы ляцяць папяровыя,
Што хмары, ахуталі нашу планету.

А ёй жа патрэбна яшчэ і духоўнае –
Няма, чым яно, найсвятлейшае ношы.
Ёй праца і творчасць ва ўздыме – галоўнае.
А людзям – адно толькі б лёгкія грошы!

І гэтакім – болей ніякіх патрэбнасцей,
І цяжкасці пераадольваць не хочуць,
І з розумам іншых – ніякае еднасці,
Над лёсам няшчасных смяюцца, рагочуць.

А ідал зноў душы ім пераніцоўвае:
І лёгкія грошы ўжо сталі цяжарам,
І золата ім – як пагроза свінцовая,
Далоні і грудзі апальвае жарам.

Той ідал… тырчыць над усімі краінамі,
Хоць і не каменным, а нейкім адменным;
Ды шчасцем і доляй яму ўсе павінны мы,
Бо ён па-ранейшаму – з сэрцам каменным.

## Манарым

Падыходжу да кватэры:
Раззяўляюць пашчу дзверы…
Колькі жаху ў тым ашчэры!
Абапёрся на шпалеры…
Раптам, нейкае халеры, –
Голас хатняе пантэры,
А з ёй – барды-кавалеры
Гучна граюць на сякеры…
Распазнаў я іх намеры:
Буду годны для вячэры.
Слёзы выраслі, што бэры,
Бо яшчэ згубіў у скверы
Ўсе грашовыя паперы
І паэму пра галеры…
Стаў, пагляд у фортку ўперыў:
Птушачкі ўзялі манеру –

Як спяваць, то пад фанеру!
І ніякай сёння веры,
Што не прыме жонка меры
І, тым болей, што сякеры
Навастрылі хлопцы-зверы…
Эх, падацца б да Бандэры,
Ды закрыліся ўжо дзверы…
Ясны дзень стаў раптам шэры…

* * *

Прысніў, што падрос крыху ў ложку Пракруста,
Што трапіў у зборную баскетбалістаў.
Устаў і ўглядаюся ўважліва ў люстра:
Такі ж карантыш, а на твары зямлістым

Даўжэй толькі сталі барозны-маршчынкі,
І нос крыху выцягнуўся хударлявы,
Пад ім адраслі аржаныя шчацінкі,
А гэта – нішто для спартыўнае славы.

Пазногці на ступнях зразаю патрошку:
Растуць і растуць, дык і ногі ж павінны…
Калі ж яны не падаўжэлі ў тым ложку,
То выцягну, пэўна, на дне дамавіны.

## Дазволь у глыбіню тваю

Любы электраапарат
Раптоўна іскрамі страляе.
Каб не было ахвяр і страт, –
Яго як трэба зазямляю.
Калі на небе хмарак зброд,

Калі шугае навальніца, –
Ратуе дом громаадвод,
І ён павінен зазямліцца.
Век дажываю. Не стае
Ні сіл, ні духу, каб хоць мелка
З плужком углыбіцца ў твае
Папары, мілая зямелька.
Таму паклон ніжэйшы б'ю:
Дазволь з табой навекі зліцца,
Дазволь у глыбіню тваю…
У хуткім часе зазямліцца.

## Эпітафія

*"Вы не шкадуйце мяне сёння"*
*Іван Чыгрын*

Мяне вы не шкадуйце сёння
І не шкадуйце ўжо ніколі:
Ні светлай раніцай спрасоння,
Ні ўвечар стомлены, тым болей.

Не ўспамінайце пры застоллі,
Таксама і ў часы хваробы.
Я шмат хацеў, хоць і не здолеў,
Але ж былі памкненні, спробы…

Надзей ласкавыя праменні
Лавіў і радасна, і сквапна;
І марыў: непаразуменні
Туман забеліць, а не вапна;

Таму няскончаную фрэску
Жыцця свайго не затынкую,

А эпітафію, бы крэску,
На ёй пакіну вось такую:

Сябры, не ўспомніць крыж пахілы
Парыў мой для Русі для Белай…
І вы маўчыце ля магілы
З высновай надта скараспелай.

Адно, махнуўшы ўслед рукою,
Скажыце: “Горасны Касьяныч,
Жадаем вечнага спакою.
Угаманіся. Спі. Дабранач”.

*

Ты прыйшла, ля магілкі стаіш –
Падказаў мне пахілены крыж.
Як не горасна сёння наверсе,
А заплакаць усё-ткі не мерся,

І ніколі, прашу, не бядуй,
І так слёзна мяне не шкадуй,
Бо я сам яшчэ болей шкадую,
Мая радасць, цябе маладую.

Вугалёчкам счарнелым не тлей,
А вакол паглядзі весялей.
І заўважыш: у шуме і ў гудзе
Ёсць паблізу дастойныя людзі.

Ты – крыніца самой дабрыні
І нудой сябе не палані.
Хутка мо за цябе, маладзіца,
Мужыкам давядзецца і біцца.

Пэўна ты зажывеш багацей,
Будзе радасці шмат за дзяцей,
Будзе дзень вашай песняй агульнай,
Ну а ночка – пасцелькай утульнай…

Ты ніколі, прашу, не бядуй,
Мяне помні, але не шкадуй,
Што мой лік растварaецца ў часе,
Як і наша кароткае шчасце.

Бог сусвету – настане той час –
Аб’яднае навекі зноў нас.

## Глядзець і бачыць

У маладосці весела глядзеў,
І лёгкі погляд быў заўсёды розны:
То мала захапляла веліч дрэў,
То мішуру лічыў я грацыёзнай.

Цяпер жа больш разважліва гляджу
І сутнасць кожнай явы добра бачу:
То снегу радуюся, то дажджу,
То вывучаю спешны след сабачы.

Чаго баяцца людзі так маршчын?
У ход ідуць і крэмы, і нацяжкі…
Ці купка робатаў, ці гурт жанчын?
Бывае, што не разлічыць без пляшкі.

І мне маршчынкі клопатаў далі,
Але адчай зусім не прадракалі,
Бо старасць – не прыцэл у глыб зямлі,
А падарожжа ўверх, па вертыкалі.

Хай маладосць у радасці глядзіць,
А старасць бачыць тое, што нябачна…
Зямля не стане сум свой верадзіць –
За тое, што на ёй жыў, будзе ўдзячна.

## Белы свет і той свет

Наваколле з’ядаю вачыма:
На свет белы бясконца б глядзець!
Можа, хутка ў зямлю ўжо? Магчыма.
Дык няўжо там адно толькі смерць?

Бульба ў склепе ляжыць без турботы,
На святло не адкрые вачэй.
Ёй з палону людскога ахвота
Перабрацца ў зямлю найхутчэй.

Ёй, што шчасце, – баразны-магілы!
Заспявала б заместа ныцця!
Бо пайшла б на той свет (гэткі мілы!)
Толькі для прадаўжэння жыцця.

Там народзяцца зноў бульбяняткі
(у зямным безваконным жытле)
І не мецьмуць ніякай здагадкі,
Што наверсе жывуць у святле.

Белы свет і той свет… Хто з іх новы?
Хто найлепшы? Дзе райскі той сад?
З-пад зямлі і людскія галовы
Не жадаюць вяртацца назад.

* * *

Хандра ў душу паўзе хандрозам,
Не выцягнуць адтуль і тросам,
Ды сутнасць, бачу, не ў хандрозе,
А, мабыць, у жыццёвай прозе.

* * *

Дурныя думкі з цемры гонячы,
Я так стаміўся сёння поначы,
Але світання ўсё яшчэ няма –
Зафарбавала вышыню сурма.
Заместа зоркі з-пад сурмы груган
Нацэліў зрэнку чорную – наган…
Ці гэта сцень, ці ўяў маіх кур’ёз?
А як не здань? А як усё ўсур’ёз?
Агонь сумнення сны бяздумна злопаў,
Ад іх у высі – толькі хмарны попел;
Ды хутка ўжо вось гэты небны шчолак
Туман замоча і адмые золак,
А спаласне – праявіцца світанак,
А ўслед за ім і – жыццядзейны ранак;
І салавей спрасонку страпянецца;
І салавейкам заспявае сэрца…
Зацьменне дум і груганові сцень
Рассее светлы радасны прамень.

* * *

Да вогнішча сябры сышліся –
Яднаемся вакол цяпла.
Імчаць на ясках думкі ў высі,
Ля зор згараючы да тла.

Пра жарсць і жар свой галавешкі
Нашэптваюць, як варушу.
Іх чорна-вогненныя ўсмешкі
Ажно расчулілі душу.

І плавіцца на скронях іней
Ад яркіх водбліскных прыўкрас
І ад ажылых успамінаў,
Якія размарозіў час.

І ў сэрцы полымя трапеча,
А можа, сэрца ў полымі?
Як азарыў агеньчык вечар!
Зрабіў усіх вясёлымі!

# РАЗДЗЕЛ 5

# Узмахі крылаў

1

Махнуў крылом і: “Ку-ка-рэ-ку! –
Закрычаў ён чалавеку. –
Я – лепшы і ў байцоўскай звадзе,
І, вядома, на эстрадзе!”

2

Махнуў крыламі і пабег,
А следам – гамерычны смех!
Махаў крылом дэкаратыўным,
Не стаўшы летуном актыўным;
Затое гонар свой і славу
На шыі ўзняў высока страус.

3

Махае крыламі вятрак,
А ў неба не ўзляціць ніяк,
Хаця ўцячы даўно ахвота
Ад з’едлівага Дон Кіхота.

4

Як пырхае! Неверагодна!
Яе, красуню, – у кіно б!
Яна ж адразу: "Згодна! Згодна!
Хоць і цяперака... да проб!"

5

Сусед не дасць ніколі маху...
Хаця ў навуках не валок,
Хаця і не суродзіч птаху,
Але ўздымаўся да аблок,
І нат вышэй, чым самалёт,
Бо самахвал і самаплёт.

6

А той махне рукой уранку –
Настольніца, як самабранка;
Махне другою і – каханка;
Махне яшчэ – павезлі ў Ялту;
Махне мацней – вязуць на Мальту.
А як ужо на тых махнуў,
Каторыя з дзяржапарата,
То і крыла не разгарнуў,
Як паляцеў за краты.

7

Узносілі, вазілі.
Быў на пасадзе ў сіле –
Прымаў пашанаў шмат бясквотна...
І ў храме слушна
Ўзнеслі дружна,
Панеслі на руках ахвотна.

8

О, як сягоння шчасціць мне!
Лячу, бы крылы на спіне!
Не камізэлька цела грэе,
А выйгрыш! Суперлатарэя!

9

Жыццё і клопаты змарылі,
Душа ўжо апусціла крылы.
І раптам – новая ідэя!
І я – на крылах Праметэя!
Хачу ў зары пазычыць фарбы
Для лялечкі маёй, для Барбы,
Якой зрабілася Алёнка,
Мая ласкавая ўлюбёнка.

10

Як толькі адчуў за спіной свае крылы
І цэліць мог у знакамітасці прама, –
Пачуў ціхі голас анёла: "Мой мілы,
Тым часам злятай і за хлебам у краму".

11

Душа панураю была,
Ды ўзмах крыла! Узмах крыла!
Падскочыла і ўжо – на ўзлёце!
І плойма мар – не шэрасць хмар,
А гурт аблок у пазалоце!

12

Хацеў нам Бог прыладзіць крылы,
Ды чэрці ўсіх нас – пад канвой,

І долю іншую стварылі,
І кожнаму – рахунак свой.

Не раз прадказваў Усявышні
Жыцця шчаслівага абрыс,
А д’ябал, каб таго не выйшла,
Склаў даўгавы нам каштарыс.

Хвастаты вопытны бухгалтар
Пазбавіў звычак і патрэб,
Жыццё ўсё перавёў на бартэр:
За здрадніцтва – алей і хлеб.

13

Не кепска ўсё-такі мець крылы.
Махнеш і – паляцеў у вырай.
А як згубіў назад дарогу,
То нехта скажа: “Дзякуй богу!”

14

О, крылы-мары так змарылі!
А дасягнуў што на вяку?
Мо лепш было займець не крылы,
А валасатую руку?

# РАЗДЗЕЛ 6

# Ветрапіс

## А ўсё-такі жарты нечага варты

Хоць мой узрост і пашанотны,
Але настрой напеўны, нотны
Не сапсуюць пакуль ні стромы,
І ні залевы, і ні громы.
Разбіўшы горычы аковы,
Кую штодзённа з іх падковы,
Каб і па льду, каб і па скалах,
І па раўніне, па палескай,
Душа натхнёная скакала
За жартам і за гумарэскай.
А з ёй і я – нагой у стрэмя...
  Жывога досціпу бярэмя
Набраў бы, толькі б у ахапку
Заместа забаўляльных слоў
Не вынясці пустую шапку,
Што кіне мне пустагалоў.
  Хаця ўжо шлях мой – тонкай ніткай,
Па ім спяшаю з думкай кідкай:
Няхай бы жарт мой ветрапісны
Быў для зняверанах карысным.

## Пра красунь

*

З усёй пашанай
Вам, паважанай,
Мой верш альбомны –
Маленькі помнік
Аб шчасці нашым
Ахвярна паўшым.

*

Учора ты плакала – роспач палоніць!–
А я вось цяпер з вачэй выцер... тугу.
Сляза на вачах і сляза на далоні...
Няўжо яны розную маюць вагу?

*

Мужык, не чакай ад каханае яснасці,
Пазбаўся навекі раўнівае хваткасці:
Не будзе красуня аб’ектам уласнасці,
Калі сябе лічыць набыткам грамадскасці,
Калі прызнае сябе скарбам абшчыны,
Тым больш як такой прызнаюць
і мужчыны.

*

– Не чырванейце, дзеўкі, густа,
Не буду папракаць вас крайнасцю.
Давайце назавём распусту
Біялагічнай разнастайнасцю.
– А вам навошта наша вернасць?
– Не станем нічыёй уласнасцю.

– Нам да спадобы разнамернасць
У перамешку з разнамаснасцю.

*

– Ну што з нашых дзевак? Іх лускаў,
як семкі,
Мо меў бы карысці больш ад іншаземкі?
– Ой, не! Нашы лепшыя нават без зелені,
Бо ў іх, як вядома, выдатныя трэнеры.

*

– Чарадою за мной мужыкі.
Пажыву і даю ўсім адказ.
– І за мною ішлі – о, быкі! –
Нават пацалаваў хтосьці раз…

*

Эх, марачкі-мары! Заўсёды бяздомныя!
Ля хмар заматаліся аж у клубкі;
Стаміўся ад іх, ды адна ўсё ж няўтомная:
Як стрэнуся з любкай, – ураз на дыбкі!

## Пра мужыкоў

*

Як будзе патрэба і крышачку волі,
То прыйдуць, нарэшце, жаданыя дні.
Але як патрэбнасць адно ў алкаголі, –
Нічога не будзе апроч балбатні.

*

– Ты чуеш, Верка? Чуеш, Вер?..
Вой, навіна сусветная!
Я ў нашым горадзе цяпер –
Асоба і прыкметная.
– Ды ну? Чаму? – пытае Вера. –
Зноў хлусіш, а ў брахні дзе мера?
– Чаму ж тады мяне адно,
Калі іду дадому я,
Ласкава клічуць на віно
Мужчыны невядомыя.
– Пры чым жа тут асоба, Грыша,
Калі твой твар – сама афіша?

*

Яшчэ ярчэй стаў талент яркі,
Калі зайгралі грані чаркі.

*

– Прасіла ж я, мой дабрадзею,
Купіць паўлітра мне алею.
– Паўлітра я купіў, але
Не змог купіць табе алей,
Бо, як заўжды, на тое ліха,
Мне не хапіла грошай крыху.

*

Не заўсёды алкаголік –
Ціхамірны меланхолік,
А калі і меланхолік,
То – без грошай алкаголік.

*

– Пахмяліцца так ахвота!..
Дзе мая бутэлька, Кацька?
– Дык забраў яшчэ ў суботу
На хаўтуры бацькі.
– А я-то думаў: дзе ж ён быў,
Што са мной тады не піў?

*

Нораў меў даволі цяжкі:
Да апошняй кроплі з пляшкі
Выціскаў з усмешкай сквапнай,
Нават з носа ў чарку капнуў.
Схамянуліся супляшнікі –
Тут жа вынялі сапляшнікі…

*

– Мяне ты называеш п’яніцам
І лічыш нават нейкім гнюсам.
А вось народ сягоння раніцай
Прызнаў чамусь ва мне Ісуса.
– ? ? ?
– Калі ў аўтобус я  напорам
З разгону ўклініўся нарэшце,
Загаласілі бабкі хорам:
“Вой, божухна, куды ты прэшся?”

*

– Малю вас, вазьміце на працу,
Я буду заўсёды старацца.
Я ж маю сямёра дзяцей…
– Ну хопіць! Давай карацей!

Ты ўмельцам такім для сябе будзь.
А іншае змог бы што-небудзь?

*

Часам звіліны добра не ведаюць,
Чым ты зоймешся, дружа, сягоння.
Кажаш: думкі цябе пераследуюць...
Прыпыніся і, можа, дагоняць.

*

Займіся, нарэшце, ты творчаю працаю –
Паўшар'ям сваім пачынай рэстаўрацыю.

*

Узяўся за розум –
І выкінуў козам.

*

– Чаму я спазняюся, браце?
Аб здрадзе маёй не трызні.
Ты ж ведаеш: у маёй хаце –
Выдатны дэтэктар хлусні.
– Ад фірмы вядомай, няйначай?
– Да што ты! Нюх жонкі – сабачы!

## Пра сямейнае

*

Жонка мудрай быць імкнецца
І галоснай, што будзільнік:
Як аднойчы завядзецца,
То ніхто парыў не спыніць,

Аж пакуль завод спружыны
Не закончыцца ў жанчыны.

*

Чуткі ходзяць, што мной яна верціць…
Хай пляткараць, я не абуруся,
Бо не верціць, а сам я, паверце,
Пад абцасам каханай кручуся.

*

– Пахуднеў мой твар, заўваж, –
Кажа мужыку Марыля.
– Бачу, змыла макіяж –
тры-чатыры кілі.

*

– Я згаладаўся, Вера.
Ну дзе твая вячэра?
Давай хутчэй сюды!
– Прабач, салодкі мой…
– Пайду я ў бар тады.
– І я! І я з табой!

*

Ты ягадка і ты загадка.
Вось бы толькі загадзя
Ведаў, што ў той ягадзе.

*

– Ты ў ПТВ не першую ўжо зімку
Навуку спасцігаеш, любы сынку.
Чаму ж ты навучыўся, хлопчык здатны?
– Вушамі варушу выдатна.

– Ну а мазгамі?
– Мамачка, з вушамі
Мазгі варушацца сінхронна самі.

*

– Ты чаго, дарагі мой сябрук,
Ашчацініўся, быццам вяпрук?
– Бо адносіны з любаю – дрэнь,
Ноччу трэснуўшы, рвуцца і ўдзень.
– Дружа, ты іх настойліва латай
Не слязою, а перадаплатай.
– А ў цябе як прыгоды любоўныя?
– Не паверыш, адносіны роўныя.
Ад каханай прэтэнзій ні грама,
Дый удзячнасці шчырай таксама.

*

– У што ж вы гуляеце, дзеткі-гаўрошы?
– У тату і маму. І так, і за грошы...

*

– Мой муж, бы звер той: дзікі, страшны.
– І мой такі ж, але дамашні.
– А мой не звер, ды ўсё ж не свойскі,
А як салдат з чужога войска.

*

Не лайдак і не сачок,
А калі ўжо ён – сучок,
То яна, выходзіць, – сучка?
Толькі ж мір у іх, маўчок,
Бо сучок хай і кручок,
Ды дзяцей у хаце – кучка.

## Пра грахі

*

Сэрца, бомы прыглушы!
Хай сумленне ў пустаце
Азмрачэлае душы
Дно і сцены абмяце,
Пыл грахоў хай вымятае;
А раз чыстая, пустая,
То душа – ужо святая.

*

Шукае мужыка ляснік:
Куды той з тонкай жэрдкай знік?
У гэты час мацак-бабёр
Асіну тоўстую папёр.
А што мужык? Няма дабра –
Засмажыў беднага бабра
І з лесніком за чаркай з’еў,
Дакладней, добра замачыў...
А хто пасля ўкраў процьму дрэў,
Ляснік чамусь не прасачыў.

## Пра сексуальнасць як рэальнасць

*

Сляпы, глухі, кудлаты леў
Ад сексуальнасці не млеў:
Прыбегла кошка ад ката…
Якая смаката!

*

Аддацца львіца ўздумала кату,
А той – наўцёкі! Вунь! Ату! Ату!

*

Ці ўдасца хлопцу без адсеву
Знайсці ў наш час цнатліўку-дзеву?

*

Чым болей дзевак у распусце,
Тым меней дзетак у капусце.

*

– Дзе чуб твой кавалерскі, буйны?
Чаму твой чэрап – як бы вымя?
– Таму што моцныя шампуні –
Усё валоссе імі вымыў.
– Ну а чаму тады сасочкі
На галаве, ажно чатыры?
– Чаго прыбіліся, браточкі?
На вас я рожкі натапырыў.
А хто на жонку намякне,
Я так бадну, што не ўздыхне!

*

Вячэраюць пры свечках
(знайшлі ў сваіх аптэчках),
І ў радасці абое,
Што сціх боль гемароя.

*

– Сябрук мой, ад кахання спешнага
Жывецца ўсё-ткі весялей.

– І я хацеў… Дайшло да смешнага…
– І ўсё? І не пайшло далей?

*

Жанчыну – о, ніякіх дзіў! –
Ніколі шчасцем не напоўніць:
Як звечара ёй дагадзіў, –
Уранку ўжо зусім не помніць.

*

Чым карацей сукенка,
Тым ногі – што? – даўжэй!
І сам агляд паненкі
Каштуе даражэй.
Так, так, яна з дакорам
Вас папракне сама,
Што заглядацца сорам,
Як грошыкаў няма.

*

Бывае зайздрасць чорная і жоўтая,
І тая, што… уразіла Мадлен,
Ды слон не ведае і толькі боўтае…
Прабачце, гэта нос ніжэй кален!

*

Перагортваю старонкі,
Быццам лыткі мілай жонкі,
І ўжо блізка… самапіска,
Ды не пішацца штось ода,
І не ў галаве прырода.

*

Ідзі, ідзі, кацяра, кроч!
Я ведаю: ты гэткі…
Мінеш сягоння ўсіх апроч
Сібірскай кошачкі-какеткі.
Пах валяр’янкі, што дурман,
Мяшаецца з уявай смачнай…
Пачнецца, бачу, твой раман,
Як мой, за пышнай градкай дачнай.

*

Саладастрасны тытунь
Спакушае пястунь.

*

Трапеча хлапеча,
А дзеўцы патрэбны
Зусім не малебны,
Зусім не анёлы,
А чорцік дзябёлы.

*

Ты што, бірук,
Зусім без рук?

*

– Ну і грудзі! – шэпча Рудзі. –
Мяката і смаката!

*

– Пагаворым летам мы аб гэтым.
– Любы мой, хачу зімой…

*

У лужыне бабкі старыя рагочаць:
Раз міні адзелі, то ўжо не намочаць.

***У смузе журба паўзе.***
***Як трываць, калі... усюды***
***Сексуальныя эцюды?***

*

Кахала калісьці і я без карысці.

*

Быў цямкі ля мамкі...

*

Дабрыдзень, злыдзень!

*

Дзе вусы спакусы?

*

Павуціна абкруціла.

*

Палашчы, лядашчы.

*

Дык вы ўсе, маркізы, –
Да дзевак падлізы.

*

Пакажы, любоў мая,
дзе тваё другое я.

*

Сходу ў прыгоду.

*

Няма дзе ў грамадзе…

*

Як патаемна – больш прыемна.

*

Чым бліжэй, тым даражэй…

*

Павольны, ды здольны.

*

Ну й зязюлі, ну й зязюлі!
І раздзелі, і разулі…

*

Запомні, бессаромны…

*

На адлегласці разбегліся.

## *Пра папулярнасць*

*

“Згадзіцеся, я ў спрэчцы праў, –
Згінаючы рукамі лом,
Мяне ўспакойваў кастапраў,
Па сумяшчальнасці і касталом.

*

– Дзе ж твае зубы і дзёсны?
Ты – шапляяўца нязносны.
– Што? Я прамоўца, дарэчы! –
Мне губашлёп запярэчыў.

*

Уставіў зубы ўсе жалезныя –
Прамовы сталі больш пампезныя.

*

– Ці я жыву, ці мной жывуць? –
Трызніў адзін Вялікі,
Якога простыя завуць:
"Вялікі, ды бязлікі".

*

Быць добрым ці кепскім – паняцці адносныя,
Не столькі прамыя, наколькі мо ўскосныя,
Галоўнае быць не з намерамі злоснымі,
А стаць працавітымі, стаць пладаноснымі,
Ды толькі не яблыняй, не агароднінай,
З чужым апетытам наперад узгодненай.

*

Наеўся дурману –
І добра гурману:
Ва лбе – завірухі
і нат перастрэлкі,
Нібы ад сівухі,
Нібы ад гарэлкі!

*

Здаецца, што ўзняўся да зорных матываў,
Здаецца, што Музу ўжо славай тамлю…
Яна ж: “Адарваўся ты ад калектыву,
Звысоку не грымніся хоць аб зямлю”.

*

Сумленне сваё Вы схаваеце ў грыме,
І гэтым Ваш імідж мы ўзвысім, пашырым,
І ўвесь рэктарат Вас убачыць і ўспрыме
Прыгожым, разумным, вядома ж, і шчырым.

## Пра долю

*

Ад поспехаў мог бы і пець, і галёкаць,
І нават здзівіць новай рыфмай кагосьці.
Але ж укусіць не ўдалося свой локаць,
А вось кацянё… укусіла і хвосцік.

*

Надта злыя забароны,
Ды не ўцямілі вароны.

*

Лiберала адпірала
І знайшла сабе арла,
Ды ні крылаў, ні мурла.

*

– Ага! Пад ліфчыкам схавала прышчык! –
Ускрыкнуў грозна падатковы сышчык.

*

На мары жонкі і на іх паўторы
Мужык наклаў зноў мараторый.

*

Трымаць сябе заўсёды
У чорным целе нельга,
Бо як пачнуцца роды –
Народ убачыць негра.

*

– Ажно мурашкі па спіне –
Так стала страшна.
– Прабач, не па маёй віне, –
Шапнуў мурашнік.

*

Ёсць работа – плата з кукіш,
Грошы ёсць, ды мала купіш.
Вінаградзінка – не гронка…
Ёсць сяброўка, ды не жонка.
Жонка ёсць, ды не сяброўка…
Не жыццё – інсцэніроўка.

*

Глядзець на прылавак не вельмі ахвочы,
Бо праўда аж коле адтуль прама ў вочы.

*

Напоўніўся ўсё ж “изобилия рог”.
Народ сёння кемны: раздзеліць на трох.

*

То грэх, то смех, то слёзны гумар –
І крыўда стала ўжо, як гума.
Яе і стрэс
Кладу пад прэс.
Мо зменшыліся? А-ні-ні!
Зноў – да былой велічыні!

*

Як бедны выстаўляе рог,
То тут жа дзіваку – астрог,
Дый рог умомант адаб’ецца.
А як заўважаць, што багаты
Не рог займеў, а скрозь рагаты, –
Суддзя ў рукаў адно смяецца.

*

Узвёў падазрэнне на сябра старога,
Ды ўпала чамусьці яно на самога.

*

Зацьменне радасцей і скрух…
У бачанні адбыўся зрух:
Убачыў тую рэчаіснасць
Пра што не думаў, не гадаў.
А ці бяда ў тым, ці карыснасць –
Няхай бы Бог параду даў.

*

Хвалілі балота сваё кулікі.
Ці ж меўся ў хвальбе той разлік? І які?
Ды проста хвалілі, не маючы рацыю,
І гэтым… наклікалі меліярацыю.

## Пра абыякавасць

Даўно ўсім вядома, што ўсюды свіння
Свінячыць і свінства разводзіць штодня,
Але гэта да ўсведамлення свінні
Ніколі-ніколі не дойдзе, ані…

*

Упартая праца, сцвярджаюць усе,
У будучым як бы карысць прынясе,
А мне ўжо цяпер яўны рай гультаю:
У бабкі і ў мамкі рублі дастаю.

*

Да чаго ж балючы крок!
Мазалі… Эх, не вязе!
А каму скажу папрок?
Галаве альбоназе?

*

– З чэрапа страха – глянь, Федзя! –
З чарапіцамі ўжо едзе!
– Ну і што? Няхай спаўзаюць,
Я ж не трус які, не заяц.

## Пра хваробы і дактароў

*

Ці адбыўся зрух тэмпературы?
Ці трапеча сэрца? Ці дрыжыць?
Як штодзённа думаць пра хаўтуры,
То нашто тады наогул жыць?

*

– Пан доктар! Ці будзе разрэз малакроўны?
Ці возьме хоць **анастэзія** мяне?
– Вядома што! **Анастасія** Пятроўна,
Трымайце мацней! Не дай бог шугане…

*

– Вой, медсястра, не спі, не спі!
Мне вельмі хочацца пі-пі…
– Дык вунь бяры кісель, папі
І зноў кідайся ў спячку.
– Ды мне не піць, куды пі-пі?..
– Не ведаеш? Пі-пі… у качку.

*

Тэмпература, ну што кенгуру!
Скача і скача… Я гэткі балесны!
Хутка мо ў ложку сваім і памру…
Во будзе, як у чужым уваскрэсну!

*

Ужо не магу
закінуць нагу
сабе на каленку,
а каб на паненку…

*

Разладзіўся ўшчэнт
Яго інструмент;
Каб ладзіць, патэнт
Узяў імпатэнт.

# Пра надзею

*

Зрабіў адзін каромысел.
А мо адкрыць іх промысел?

*

Мы – каласкі на чалавечай пожні.
Мая надзея, ты памрэш апошняй.
– Ну што ж, перажыві мяне і значна,
Твой лёс няхай складзецца больш удачна.

*

Надзея, думаў, ты памрэш апошняй,
У гэта верыць сёння, мабыць, кожны.
З табою дні свае нізаў, што перлы,
Ды ўсё ж ты першая ўва мне памерла.

*

Як цела халадзее,
То дзе ўжо там надзея?

*

Мяне самотна спаланіла ложа,
І ўжо ніхто, ніхто не дапаможа.
Але – о, цуд! – надзея ўжо другая
З глыбокай цемры раптам выбягае,
Добразычлівая, хоць і чужая,
Упарта прагу да жыцця ўзбуджае.

# Пра гады і час

*

Гады юнацтва ўдалеч пагалёкалі.
Мы адпусцілі лёгка іх… Навошта?
А зараз драбязім нязграбна крокамі,
І кожны дзень амаль не мае кошту.

*

Цік-так, цік-так…
Добра маладым і так.
Цік-так, цік-так.
А старым – так-сяк, так-сяк…

*

Роспач нудная, перацірай, ажно ў кроў тры
І надзею, і нервы, і жылы нуды!
Нібы стрэлкі гадзінніка, рукі на коўдры,
А пад ёю – я сам і былыя гады.

*

Божа! Твар мой – мінуўшчына з воску!
І куды ж вы, гады, мяне так несяце?
А ў адказ – ані слова і ні адгалоску,
Бо яны ў іншым свеце ўжо, у немаце.

*

Рубель і свечку падарую храму.
Заходжу… А куды? У краму?
Бутэлек во… на алтары!
Вой, вочачкі! Пратры, стары!

*

Вецер падхапіў гады,
”Зараз” перайшло ў “тады”,
Знікла ў вечнай цішыні.
Толькі ўсё яшчэ ў журбе
Хвалі бегаюць на лбе…
Усявышні, супыні!

# РАЗДЗЕЛ 7

# Пераклады

## Амар Хайям*

### Рубаі**

Патаемны сусвет. Я – адвечны шкаляр.
А настаўнік – жыццё, што нахмурыла твар.
Пасівеў, пастарэў, ды жыву, як рамеснік.
А калі ж буду майстрам? Дзе ўзяць Божы дар?

*

І пылiначкі, што нада мной паплылі,
Можа кудзеркамі, можа з вейкаў былі,
І таму дываны выбівай асцярожна,
Мо там пыл ад красунь, што калісьці жылі.

*

Пазаўчора я збан, што гаворыць, купіў.
“Быў я шахам, стаў прахам, – усім ён трубіў. –
А ганчар з майго праху зрабіў ладны кубак,
Каб п’янчуга смяяўся, калі з мяне піў”.

*

За ўчарашнія страты сябе не карай,
Меркай заўтрашняй сённяшніх спраў не змярай.
Што было і што будзе – надзей не стварай,
А сучаснае ператвары сам у рай.

*

Як жар-птушка ці ў замку князёўна, падчас
Доўга ісціна ў сэрцы хаваецца ў нас.
І пярлінцы патрэбна таксама таемнасць,
Дзе б яе слабы бляск набіраўся, не гас.

*

Як адносіцца Бог да пацешлівых штук?
Нас, як лялечак, не выпускаючы з рук,
Па зямлі, як па сцэне, на нітках паводзіць,
І ў куфэрак складзе: там – ні болю, ні мук.

*

Ты – крыніца вяселля і суму руднік,
К дабрыні і к паскудству даўно ўжо прывык.
Чалавек, ты – агромністы свет шматаблічны:
То палаеш агнём, то нікчэмны твой лік.

*

Дык чаму так стварыў Усявышні асоб:
Па свайму падабенству і рукі, і лоб?
Дасканала зрабіў, дык чаму ж паміраем?
А як недасканалыя, хто бракароб?

*

Ты сарваў дзіва-кветку. Выдатны твой густ!
З губ ружовых, памерлых расце гэты куст.

І сцяблінка ля ног, можа, з сэрца былога,
А ты топчаш, не ведаеш, чый гэта хруст.

*

Над зямлёю зара нахіляецца зноў,
Як над кубачкам збан, што з віном да краёў.
Толькі льецца на дол не напой вінаграда,
А сыноў чалавечых барвяная кроў.

*

Калі б сіл больш у цела маё нацякло,
Я б разбіў усё неба, як дрэннае шкло!
І другое б узвёў, разумнейшае неба,
Каб дастойных заўважыла і берагло.

*

О душа! Чаму робіш з мяне ты слугу,
Увагнаўшы і боль, і адчай, і тугу?
Дык нашто нарадзіўся, калі я на свеце
Ўжо ніколі нічога змяніць не магу.

*

Што адмерыў нам Бог, мы не змерым, сябры.
Не паменьшым бяды, не пабольшым дары.
Дык старайцеся з толкам патраціць наяўнасць
Па закону нябёс: не ўсё цалкам бяры.

*

Адвярні свае вочы ад скрушных часоў,
Хай каханне віном выцякае з вусоў.
Не патрэбна нябёсам пакорлівасць наша,
Лепш красуню цалуй міліёны разоў.

*

Калі раны ў цябе, то віно, што бальзам.
Пройдзе дзень, перакрыўшы дарогу слязам.
Задаволены будзь даразанаю доляй,
І перарабляць не спрабуй яе сам.

*

Калі пост парушаю для смачных пацех, –
Вы мяне ўсё-ткі не падымайце на смех.
Бо мне посныя дні – быццам чорныя ночы,
А начамі грашыць, як вядома, не грэх.

*

Пастку лёсу, вядома, ніхто не міне.
Я б заўсёды як хочацца жыў бы, дык не.
Без мяне на нябёсах прымаюць рашэнні,
А пасля, як віноўніка, судзяць мяне.

*

Кіпарыс языкамі, якіх не злічыць,
Не балбоча, не меле, а сціпла маўчыць.
А таго, хто адным языком тараторыць,
Не пашкодзіла б дрынам штодзённа лячыць.

*

Столькі думак, што часам настрой іграві!
А як выкажу іх – не знасіць галавы.
Толькі гэта папера дастойна даверу.
А сябры? Ненадзейныя ўсё-такі вы.

---

* Амар Хайям (каля 1048 – 1123) – персідскі паэт, вучоны, матэматык, астраном, паліглот.

** Рубаі – чатырохрадкоўе.

## *Люцый Анней Сенека**

Гадоў былых падняць бы стосы,
Каб да былога дакрануцца.
У Рыме Сенека жыў, Люцый –
Сучаснік мудрага Хрыстоса.

У царстве рабскага рэжыму
Меў светлы, незвычайны розум,
І ў гэтым бачылі пагрозу
Валадары старога Рыма.

Хоць і плебей, ды небяспечны...
Нерон ад зайздрасці чарнее
І загадаў, каб мозг Аннея
Бясследна паглынула вечнасць.

О, сіла лёсу-веніка!..
Але карысна ўсё ж і сёння
Развагі слушныя прыпомніць,
Спазнаць жыццёвы вопыт Сенека.

*Люцый Анней Сенека, 4 г. д. н. э. і 65 г. н. э., філосаф, быў прыстаўлены выхавацелем маладога Нерона, які, стаўшы імператарам, зайздросціў розуму філосафа і загадаў настаўніку і яго жонцы памерці. Люцый Анней Сенека перарэзаў вены сабе і сваёй жонцы.

## *Погляды філосафа*
### *(узятыя з маральных лістоў да Люцылія)*

Ад намеру да намеру
Мітусішся ты няўмеру –
Справа недарэчная.

Хіба можаш нецярпліва
Сатвараць сабе рупліва
Штосьці даўгавечнае?

*

У шчасці, кажуць, павязе,
Ды толькі па якой дарозе?..
Стаім за нечым у чарзе,
А шчасце – побач, у знямозе.

Ні тэрміну, ні адпачынку
Само сабе не дазваляе,
І ўзнёсшыся, нібы пушынка,
Праз мары нашы пралятае.

І мы спяшаемся за ім –
За ўладаю і за раскошай,
І ўрэшце рэшт згараем з ім
Ад гонару альбо ад грошай.

*

Як нам прыйсці да шчасця, да свайго?
Якія нам памылкі засцяць?
А тое, што мы сродкі да яго
Прымаем за самое шчасце.
І чым хутчэй к яму імкнемся –
Далей ад шчасця застаемся.

*

Пачатак шчасця і яго канец –
Неўтаймаваная настырнасць.
Але працягласць і яго вянец –
Упэўненасць і ціхамірнасць.

*

Ты не мяняеш месцаў у жыцці.
Табе адсюль не хочацца сысці,
Бо шчасця, мабыць, столькі ў мітусні,
Што крыўды ў непрыкрытае хлусні.

І першы доказ, што не ўзрушыў дух, –
Калі  ты здолеў, захаваўшы рух,
Спакойна жыць тут на зямлі сваёй
І заставацца ўсё ж самім сабой.

*

А мы прычыны для трывог
Шукаем у пылу дарог,
І ўжо не толькі, каб хутчэй ісці,
Дык і цягнуць свой груз не можам,
Тым больш, у кожнага шляхі ў жыцці –
Амаль заўсёды бездарожжа.

*

Бяда ідзе, але я веру,
Што трэба знаць бяды той меру
І разгадаць, хаця прыблізна,
Ці будзе надта ўжо вялізнай,
Ці будзе надта ўжо працяглай;
Ды можа і яна сама
Ад страху нават перасмягла,
А… страшнага ў самой няма.

*

Калі над іншымі без бою
Ты ўладу захацеў узяць, –

Сумей уладу над сабою
Спакойна розуму аддаць.

І кіравацьмеш без пагрозы,
Накінеш на астатніх збрую,
Калі табой уласны розум
Ураўнаважана кіруе.

*

Фартуна шанц табе дае,
Яна сама цябе знаходзіць
І не радзей, чым ты яе
За кратамі і на свабодзе.

*

Каму мае патрэбны творы,
Калі ў сучасным карагодзе
Яны сягоння, як і ўчора,
Да многіх нават не даходзяць.

Хаця мне і не трэба многіх,
Хапае нават аднаго,
Калі душа яго – разлога…
Пішу я, мабыць, для яго.

Пішу і ўдумліва, і ўпарта,
Бо добра ведаю, што ён
На гэтым часе болей варты,
Чым шматгаловы стадыён.

*

Не бедны той, хто мала мае,
А той, каму ўсё не хапае.
Ну дзе, скажы, мяжа багацця

Ў душы тваёй і ў тваёй хаце?
Мець тое, што для цела досыць,
Ці тое, што душа запросіць?

*

Дастатак разумнаму – тое, што ёсць.
Другі ж дык пакуты свае не стрымае:
Замучвае сквапнасць, замучвае злосць,
Бо грэбуе тым, што сягоння ўжо мае.

*

Хоць жыццё – гэта боль і нудота,
Ды жыць доўга каму не ахвота?
Можа, правільна жыць хто б і здолеў,
А жыць доўга – ніхто і ніколі.

*

Услед за надзеяй з’яўляецца страх,
А з поспехам побач разгульвае крах.
А там над палонным стаіць вартавы –
З’яднаў процілегласці звязак жывы.
Няўпэўненасць точыць абое бакі…
Ці хутка канец ёй? Калі і які?

*

Даносіцца голас ліслівы, салодкі,
Даносіцца быццам бы з райскага саду.
А ты будзь далей ад таго асяродку,
Далей абыдзі неспадзеўку-прынаду.

Глухім заставайся, не слухай нікога,
І тых, каму быў дарагі ты няўмеру:

Яны пажадаюць нямала дурнога,
Хаця і жадаюць у лепшых намерах.

Калі ж табе хочацца долі шчаслівай,
Цвяроза ўспрыняць і суседства, і далі, –
Пазбаўся, мой сябра, хутчэй ад наплыву,
Што добразычліўцы табе пажадалі.

Ёсць толькі адна дабрыня, ды якая?!
Крыніцаю шчасця магла б называцца.
А гэта твой вопыт, які заклікае
Заўсёды адно на сябе спадзявацца.

*

Частку часу майго адбіраюць.
Потым частку крадуць, а яшчэ
Доля часу дарэмна згарае –
Не сагрэе і не апячэ.

Але мне яшчэ болей ганебна,
Калі сам я губляю свой час,
Калі ў справах, зусім непатрэбных,
Дзень яшчэ адзін поўнасцю згас.

І калі бесклапотна, заўчасна
Я гады свае трачу дарма,
То на добрае, кажучы ўласна,
Часу не застаецца, няма.

*

Смерць за мною ідзе неадступна,
Праглынуўшы мінулы мой час.
Дык няхай кожны дзень будзе рупным...
Каб ніводзін дарэмна не згас.

І тады можна меней залежыць
Ад загадкавых заўтрашніх дзён…
Нават з самай агромністай вежы
Мне мой будучы час не відзён.

Я пакуль не за тою мяжою,
Што адрэжа сучаснасць ураз.
На зямлі тут усё мне чужое,
А маё – гэта толькі мой час.




Музей-сядзіба
“Пружанскі палацык”.
Літаратары і аматары
прыгожага пісьменства пасля
ўручэння Алесю Корневу
Берасцейскай Мядовай прэміі
(14.01.2010 г.)




Музей-сядзіба
“Пружанскі палацык”.
Мецэнат Берасцейскай
Мядовай прэміі Мікола Папека
і яе лаўрэат за 2009 год
Алесь Корнеў
(14.01.2010 г.)

# Змест



Літаратурна-мастацкае выданне

**Корнеў** Алесь Касьянавіч

МЯДОВЫ ПОЛЮС
Вершы і паэма

Рэдактар *І. Лагвіновіч*
Камп'ютэрная вёрстка *Н. Фіцнер*
Карэктар *Н. Фіцнер*

(Кніга выдадзена на ўласныя сродкі аўтара)

Падпісана да друку 15.06.2010. Фармат 84x100 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Рызаграфія. Ум. друк. арк. 5,4.
Ул.-выд. арк. 5,4. Тыраж 99. Заказ 2906.

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
прыватнае вытворча-гандлёвае унітарнае прадпрыемства
«Издательство "Альтернатива"»
ЛИ № 02330/0494051 ад 03.02.2009.
ЛП № 02330/0150460 ад 25.02.2009.
Пр. Машэрава, 75/1, к. 312, 224013 г. Брэст.